


# Рэгіянальная газета. Rh.by




27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

3 лютага 2017 года №5 (1136)

**Жыхары рэгіёна ўспамінаюць Аляксандра Ціхановіча** старонкі 18-19

**Заробкі: хто з раёнаў у лідарах і аўтсайдарах** старонка 3

**Маладзечанская міліцыя стала лепшай на Міншчыне** старонка 4

**Асфальт у двары павінны рамантаваць з бюджэту горада?** старонка 20

# "Калі дзіця цягнецца за цацкай – гэта не грып"

- ✔ ці прыйшоў грып у рэгіён
- ✔ дактары пра тое, як засцерагчыся ад хваробы
- ✔ як лячыцца
- ✔ ці можна дома самім рабіць уколы

старонка 5

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

# Раніцай выганяем курыльшчыкаў з туалетаў:
## санітарка з Вілейшчыны расказала пра работу

ВІЛЕЙКА

**"Я не баюся, што страчу сваю работу. Там, дзе я працую, людзі заўсёды патрэбныя, іх не хапае", – напісала нам адна чытачка з Мінска.**

Мы зацікавіліся, кім жа яна працуе. Аказалася, чытачка жыве ў Мінску і працуе там санітаркай у бальніцы.

А што скажа пра свае будні санітарка з нашага рэгіёна? Гутарым з **Наталляй** з Вілейшчыны.

Ужо некалькі год яна працуе санітаркай у Рэспубліканскім цэнтры псіхічнага здароўя у Навінках. Дакладней, не працуе, а падпрацоўвае у выхадныя: у суботу або нядзелю.

З Ільі ў Мінск дабірацца па-рознаму: часам на ўласнай машыне, а часам на аўтобусе "Паставы-Мінск", які раніцай ідзе праз Ілью. На аўтобусе, кажа жанчына, ехаць танней. Кошт білета на гэты маршрут ніжэйшы, чым на астатнія. Туды і назад атрымліваецца 6 рублёў. Калі ехаць на ўласнай машыне, на бензін трэба выкласці 11 рублёў.

У рабоце жанчыне падабаецца графік – яна працуе цэлыя суткі. Можна і па 12 гадзін, але тады ўзнікаюць праблемы, як дабрацца на працу і дадому.

Не зусім зручна тое, што дачку-школьніцу даводзіцца пакідаць на гэты час. Аднак тут на дапамогу прыходзяць сваякі.

Наталля працуе ў аддзяленні, дзе ляжаць людзі з неўрозамі. Так званых "буйных" тут няма. Гэта адкрытае аддзяленне. А вось у закрытых мужчынскіх аддзяленнях ёсць санітары-мужчыны. З Ільі яны таксама ездзяць сюды працаваць. Усяго ж з Ільяншчыны ў Навінках працуе каля 20 чалавек. Тут ужо ўсе па некалькі год, і амаль ніхто за гэты час не звольніўся.

### Калі хворым лепш, яны не супраць паразмаўляць з санітаркай

Санітаркі па ўзросце розныя: ёсць і маладыя, і сярэдніх гадоў, і тыя, для каго зарплата – прыбаўка да пенсіі.

Змена, па словах Наталлі, пачынаецца з таго, што санітаркі "прымаюць" душавыя і туалеты. З туалетаў часта даводзіцца выганяць курыльшчыкаў. Пасля прыбіраюць, выносяць смецце, разносяць ежу. У многім дапамагаюць хворыя. Напрыклад, па чарзе адносяць смецце. Бачкі вялікія, несці не блізка, таму жанчыне можа быць фізічна цяжка. Да таго ж працатэрапія таксама рэч карысная.

Хоць аддзяленне і адкрытае, але спецыфічныя асаблівасці адчуваюцца, прызнаецца Наталля. Напрыклад, санітаркі тут не толькі прыбіраюць. У іх ёсць яшчэ адзін важны абавязак – назіраць за паводзінамі хворых.

З імі ў Наталлі адносіны добрыя.

– Калі чалавек адразу паступіў і яму дрэнна, то пару дзён прыходзіць да медсястры толькі цiск памераць, – распавядае жанчына. – Калі ж праз колькі дзён хвораму палепшала, то яму ўжо і з санітаркай хочацца "за жыццё" паразмаўляць.

Калі хворым не спіцца, напружаныя ночы і ў санітаркі. Але яны і так працуюць без права сну.

Паколькі Наталля працуе не на поўную стаўку, зарплата ў яе – 130 рублёў.

**– Няхай 30 рублёў я на дарогу аддам, а 100 усё ж зараблю, – разважае жанчына.**

Зароблены 100 рублёў ідуць на выплаты: камунальныя паслугі, тэлефоны, інтэрнэт.

Кідаць падпрацоўку Наталля пакуль не збіраецца. Хіба толькі аддзяленне зачыняць, жартуе яна.

Мы прагледзелі вакансіі па прафесіі "санітарка" ў нашым рэгіёне. Амаль паўсюдна патрабуюцца медыцынскія сёстры, фельчары, дактары-спецыялісты. А вакансій для санітарак няма.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота media.bobruisk.ru.

**У рэгіёне ёсць вакансіі для медсясцёр, фельчараў, дактароў-спецыялістаў. А вось вакансіі для санітарак няма. Таму многія жанчыны ездзяць працаваць у Рэспубліканскі цэнтр псіхічнага здароўя ў Навінкі.**

## Удачное начало года: жители Сморгонщины выиграли у "Евроопта" две машины за месяц

**Январские туры народной игры «Удача в придачу!» оказались для жителей Сморгонского района самыми успешными за всю ее историю. В каждом из них наши земляки выиграли по внедорожнику Hyundai Creta, а также сотни других призов от «Евроопта».**

Одним из главных счастливчиков в 25-м туре "Удачи в придачу!" стал экономист Павел Барбашов из агрогородка Солы Сморгонского района, выигравший новый автомобиль. По признанию самого Павла, в полной мере осознать свою победу ему тяжело до сих пор. И на это есть очень веские причины.

*– Это кажется невероятным и мне самому, но тем не менее: я получил машину с первой же попытки! До этого не участвовал в игре "Евроопта" просто потому, что не верил в возможность победы в ней обычных людей. Попробовать уговорила мама, мол, в нашем районе уже случались выигрыши, в том числе крупные. Я не люблю необоснованный риск, но в случае с "Удачей в придачу!" речи о каких-то дополнительных усилиях не идет. Все очень просто. И, конечно, теперь я уж наверняка знаю, что в ней все по-честному,* – делится наш земляк.

Новый Hyundai Creta Павла Барбашова – уже не первый автомобиль от "Евроопта", который будет разъезжать по просторам нашего района. Буквально в предыдущем туре удача так же широко улыбнулась Людмиле Сташевской из агрогородка Залесье. Кроме новых внедорожников, только в январе жители Сморгонщины получили от организаторов игры более 300 подарков. Это позволило району укрепить свою позицию в списке самых везучих регионов Гродненщины.






Масштабы выигрышей по всей области, разумеется, еще более внушительные. Всего за год ее жители стали обладателями квартиры в Минске, 6 внедорожников, а также порядка 10 000 денежных призов и сертификатов, и современных мобильных гаджетов. Помимо Сморгони и, само собой, Гродно, в областных лидерах по количеству побед сегодня числятся Лида, Слоним, Волковыск и Мосты.

В целом по Беларуси "Евроопт" разыграл уже более 82 000 призов общей стоимостью около 3,5 миллионов долларов. Среди них – 5 квартир, почти 60 автомобилей, а также 1 000 смартфонов и планшетов. За 25 туров победителями народной игры успели стать десятки тысяч человек.

С начала 2017 года, напомним, призовой фонд "Удачи в придачу!" был значительно расширен. Теперь в каждом туре разыгрывается квартира в столице, 3 автомобиля, 100 планшетов и 30 000 денежных сертификатов. Претендовать на них могут все владельцы дисконтных карт "Е-плюс", которые совершают покупки в сети магазинов "Евроопт" и онлайн-гипермаркетах "Е-Доставка" и "ГиперМолл".

Розыгрыши призов среди участников "Удачи в придачу!" проходят каждые 2 недели. Следить за ними в режиме реального времени можно на телеканалах ОНТ и "НТВ-Беларусь", на сайтах evroopt.by и belta.by, а при желании – прямо на месте события, в столичном торговом центре "Е-Сити" на улице Денисовская. Розыгрыш ближайшего, 26-го тура "Удачи в придачу!" состоится 11 февраля.

# Заробкі: хто з раёнаў у лідарах і аўтсайдарах







**Астравецкі раён не саступае лідарства па заробках у рэгіёне. Намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата за мінулы год на Астравеччыне перавысіла 642 рублі.**

На другім месцы ў рэгіёне – Маладзечаншчына з сярэднім заробкам амаль у 628 рублёў. У тройцы лідараў – Смаргонскі раён. Там у сярэднім летась штомесяц налічвалі каля 590 рублёў. Гэтыя тры раёны лідзіравалі ў рэгіёне па зарплаце і за 2015 год.

Зусім крыху не дацягнуў да Смаргонскага раёна Мядзельскі. У ім летась сярэдні заробак перавысіў 589 рублёў. На Вілейшчыне зараблялі на 19 рублёў менш – 570 рублёў. Жыхарам Валожынскага раёна налічылі па 568 рублёў. Найніжэйшы ў рэгіёне сярэдні заробак на Ашмяншчыне – амаль 564 рублі. Такія дадзеныя прыводзяць галоўныя статыстычныя ўпраўленні Мінскай і Гродзенскай абласцей.

Зразумела, у снежні заробак быў большы, чым у сярэднім за год. Напрыклад, у Маладзечанскім раёне налічаны заробак за снежань перавысіў 685 рублёў, у Вілейскім склаў 612 руб.

Працягваецца зніжацца рэальны заробак, які разлічваецца з улікам росту цэн на тавары і паслугі. За 2016 год у адносінах да 2015 ён зменшыўся ва ўсіх раёнах. Найбольш рэальны заробак упаў у Ашмянскім і Валожынскім раёнах.

**Аддзел інфармацыі паводле статыстычных упраўленняў Мінскай і Гродзенскай абласцей.**



| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 26.01 | 2.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9286 | **1,9365** |
| Еўра | 2,0676 | **2,0881** |
| Злоты, 10 | 4,7517 | **4,8353** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2612 | **3,2113** |
| Грыўня, 100 | 7,0859 | **7,1722** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 25.01 і 1.02** | | |
| Еўра | 2.0600/2.0800 | **2.0600/2.0880** |
| Долар ЗША | 1.9200 /1.9360 | **1.9250/1.9400** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 25.01 | 1.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 15,99 | **15,99** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,13 | **7,13** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,29 | **3,29** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,18 | **4,18** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,90 | **12,90** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,50 | **1,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,35 | **2,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 2,00 | **2,00** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,50 | **4,50** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,69 | **0,69** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Капуста, 1 кг | 0,39 | **0,39** |
| Морква, 1 кг | 0,58 | **0,58** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,80 | **1,69** |
| Лімоны, 1 кг | 3,49 | **2,99** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,69 | **2,69** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,75 | **2,69** |
| Гранаты, 1 кг | 3,49 | **3,49** |
| Ківі, 1 кг | 3,40 | **3,49** |
| Буракі, 1 кг | 0,49 | **0,45** |
| Памідоры, 1 кг | 3,25 | **4,50** |
| Агуркі, 1 кг | 4,95 | **5,90** |
| Перац, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,49 | **2,49** |
| Вінаград, 1 кг | 3,80 | **3,85** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,35 | **1,39** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 2,90 | **2,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,35 | **0,35** |
| Сала, 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |
| Мёд, 0,5 л | 6,00 | **6,00** |

# У Іжы загінуў 30-гадовы трактарыст

ВІЛЕЙКА

Пра гэта 31 студзеня адразу пасля здарэння "РГ" паведаміў чытач.

Факт пацвердзіў кіраўнік прадпрыемства **Пётр Міргалоўскі**.

Начальнік Вілейскага Следчага камітэта **Яўген Мягкоў** расказаў пра падрабязнасці здарэння.

30-гадовы жыхар вёскі Іжа, работнік ААТ "Чырлёны", 31 студзеня каля гадзіны дня адпампоўваў каналізацыю з дапамогай трактара і прычапной бочкі.

У нейкі час ён блізка падышоў да карданнага вала, які злучаў бочку і трактар і круціўся з вялікай хуткасцю. Вопратку рабочага накруціла на кардонны вал. Малады чалавек моцна стукнуўся аб прычапную прыладу і ад атрыманых траўмаў памёр на месцы.

Пацярпелы быў жанаты, меў траіх дзяцей.

Цяпер праводзяць судова-медыцынскую экспертызу, высвятляюць усе абставіны здарэння. Разглядаюць магчымае парушэнне тэхнікі бяспекі.

**Аддзел інфармацыі.**

# Маладзечанская міліцыя стала лепшай у вобласці

МАЛАДЗЕЧНА

**Узнагароду ўручылі Маладзечанскаму райаддзелу ўнутраных спраў, які стаў лепшым у Мінскай вобласці па выніках працы за 2016 год.**

Пераходны прыз імя першага начальніка УУС Мінскай вобласці генерал-маёра **Генадзя Пукава** ўручаюць ад 2008 года. За гэты час Маладзечанскі РАУС заваёўвае ўзнагароду трэці раз, раней перамагалі па выніках працы за 2014 і 2011 гады. І ўжо другі раз лідары за перыяд, калі аддзел узначальвае **Валянцін Асіповіч**.

Пераможны аддзел вызначаюць па колькасці першых месцаў у розных катэгорыях. Пяць падраздзяленняў Маладзечанскага РАУС сталі лепшымі па выніках мінулага года: аператыўна-дзяжурнай службы, крымінальна-выканаўчай інспекцыі, штаб, аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі, аддзялення дзяржаўтаінспекцыі. Падраздзяленні атрымалі пасведчанні і вымпелы.

Падзяку ад міністра ўнутраных спраў атрымаў участковы інспектар капітан міліцыі **Сяргей Амінаў**, які стаў лепшым участковым інспектарам вобласці.

Лепшым супрацоўнікам назвалі начальніка фінансавай часткі **Ігара Пархімовіча**.

Лепшым супрацоўнікам ізалятара часовага ўтрымання стаў **Аляксандр Абрамчык**. Маладзечанскія міліцыянеры перамаглі ў большасці намінацый узнагароджання.

**Начальнік Маладзечанскага РАУС атрымаў званне палкоўніка**

Валянцін Асіповіч атрымаў чарговае спецыяльнае званне палкоўніка міліцыі, згодна з Указам **Аляксандра Лукашэнкі** ад 30 снежня. Званне ўручыў міністр унутраных спраў **Ігар Шуневіч** 11 студзеня.

Валянцін Асіповіч стаў першым міліцэйскім палкоўнікам, які нарадзіўся, вырас і служыў на Маладзечаншчыне, нікуды не з'язджаючы працаваць. Ён першы цалкам маладзечанскі палкоўнік. Да чытачоў "РГ" палкоўнік звяртаецца са словамі:

– Усё, што мы робім, – для бяспекі і аховы грамадскага парадку насельніцтва. Мы заклікаем давяраць міліцыі, не быць абыякавымі, а наадварот, займаць актыўную грамадзянскую пазіцыю. Калі ўзаемадзеянне з грамадзянамі стане ўзаемным, то разам мы будзем імкнуцца навесці парадак у нашым агульным доме. І ў нашай працы таксама здараюцца памылкі, але мы іх абавязкова аналізуем і разбіраем, вучымся на іх. Кожная жыццёвая сітуацыя унікальная, і не заўсёды зразумела загадзя, якое рашэнне слушнае. Мы ўмеем прызнаваць памылкі, таму што іх не дапускае толькі той, хто нічога не робіць. Пры гэтым мы заўсёды адкрытыя да канструктыўнай размовы. Хаваць і замоўчваць – гэта не наш шлях. Мы абавязкова шукаем рашэнні, выгадныя абодвум бакам. Наша мэта – аднавіць у правах і інтарэсах грамадзяніна, калі яны парушаны тым ці іншым спосабам.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Начальнік Маладзечанскага РАУС палкоўнік Валянцін Асіповіч каля пераходнага прыза імя Генадзя Пукава.

**Самыя гучныя справы 2016 года**

Самыя яркія ўзоры якаснай працы маладзечанскіх міліцыянераў за мінулы год называе намеснік начальніка РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Уладзімір Васількоў**:

1. Затрыманне рабаўнікоў, што ўчынілі разбойны напад на філіял банка ў Беразінскім.
2. Затрыманне **Георгія Міхалевіча**, якога падазраюць у махлярстве.
3. Раскрыццё буйнога крадзяжу медзі з "Электрамодуля".
4. Вярнулі маёмасць гаспадарам, што фігуравала ў справе па здыманні з машын колаў.

## З-за бадзяжных сабак вылецеў у кювет і перакуліўся

МАЛАДЗЕЧНА

Аварыя здарылася каля 9 раніцы 28 студзеня, у Лебедзеве.

60-гадовы кіроўца аўто "Дача-Сандэра" рушыў па аграгарадку. Раптам убачыў, што дарогу перабягае зграя бадзяжных сабак. Кіроўца пачаў прытармożваць, каб не наехаць на іх. Але яго занесла ў левы кювет, і машына перакулілася на дах.

Мужчына з аўто вылез сам праз багажнік. Жыхары аднаго з дамоў на гэтай вуліцы выклікалі "хуткую дапамогу", але кіроўца ад дапамогі адмовіўся.

Пазней пад'ехалі супрацоўнікі ДАІ, распавядае дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

У адносінах да кіроўцы склалі пратакол з-за таго, што ён не прыняў мер для поўнага спынення аўто.

Адзін з іх зайшоў у дом да сваякоў на 3-5 хвілін.

Другі застаўся на вуліцы. Пешаход узгадвае, што раптам адчуў удар у спіну і ўпаў.

Расплюшчыў вочы і ўбачыў перад сабой двух чалавек. Яны дапамаглі паднясця, спыталіся, ці патрэбная "хуткая". Пацярпелы адмовіўся. Тады яны вярнуліся ў аўто і паехалі.

Дзяржаўтаінспекцыя шукае сведкаў і відавочцаў аварыі, паведамляе інспектар ДАІ **Сяргей Бартош**. Звяртацца можна ў кабінет №18 па вуліцы Дудко, 1 у Маладзечне. Таксама можна пазваніць: **(80176) 74-53-43, 74-53-40** ці **102.**

## У Радашкавічах машына збіла пешахода і з'ехала

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося каля 22:30 у вёсцы Сычавічы.

Меркавана, шэры "Фольксваген-Гольф" наехаў на пешахода і з'ехаў з месца аварыі.

У той вечар двое маладзёнаў з Радашкавічаў вярталіся дадому.

## 25-гадовы маладзён без правоў раз'язджаў па Валожыншчыне

ВАЛОЖЫН

Мужчына быў пазбаўлены пасведчання кіроўцы за паўторнае кіраванне ў стане алкагольнага ап'янення.

Аднак гэта не спыняла карыстацца машынай. Ён завітваў на ёй да 36-гадовага сябра, на машыне вырашаў справы. Усё абыходзілася, пакуль пра здарэнне не паведаміў сябар, які быў не згодны з такімі паводзінамі.

Маладзёну пагражае штраф альбо арышт да шасці месяцаў.

Пра здарэнне расказаў следчы Валожынскага РАСК **Ілля Глінскі**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Карэспандэнтам "РГ" падзякавала міліцыя

МАЛАДЗЕЧНА

Узнагароду ўручыў намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Уладзімір Васількоў** 31 студзеня.

Падзяку за асвятленне і прапаганду дзейнасці міліцыі Міншчыны, плённае супрацоўніцтва ў пытаннях прафілактыкі злачынстваў і правапарушэнняў атрымалі тры супрацоўніцы выдання: **Зоя Хруцкая, Наталля Тур і Галіна Суднікоціч.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Жыхарка Вілейшчыны пацярпела ў аварыі з аўтобусам на Мядзельшчыне

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

Аварыя адбылася раніцай 29 студзеня паблізу вёскі Альсевічы на Мядзельшчыне, на пятым кіламетры аўтадарогі Брусы-Сваткі.

Аўтобусам МАЗ 26060 кіраваў 47-гадовы жыхар Вілейскага раёна. Ён ехаў у напрамку вёскі Сваткі. На закругленні дарогі направа кіроўца не справіўся з кіраваннем. Аўтобус з'ехаў у правы па ходзе руху кювет і перакуліўся.

У выніку атрымала траўмы пасажырка аўтобуса, 32-гадовая жыхарка Вілейскага раёна. Яе не шпіталізавалі.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## У Вілейцы на пераходзе збілі жанчыну

ВІЛЕЙКА

Здарылася гэта каля 10 раніцы 31 студзеня ў Вілейцы. 25-гадовы кіроўца на аўтамабілі "Мерсэдэс-Бэнц 100D" ехаў па вуліцы Стаханаўскай у напрамку плошчы Свабоды.

Машына наехала на жыхарку Вілейскага раёна, якая пераходзіла праезную частку дарогі па нерэгуляваным пешаходным пераходзе.

У выніку здарэння 29-гадовую жанчыну шпіталізавалі з адкрытай чэрапна-мазгавой траўмай лёгкай ступені, страсеннем галаўнога мозгу, закрытым пераломам пазваночніка.

Каб пазбегнуць ДТЗ на нерэгулюемых пешаходных пераходах, кіроўцам неабходна пры на пад'ездзе знізіць хуткасць, аж да спынення аўтамабіля, каб саступіць дарогу пешаходам. А пешаходам, нават маючы перавагу на пешаходных пераходах, таксама неабходна пераканацца ў бяспецы пры пераходзе праезнай часткі.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## Выратавалі мужчыну з жанчынай, якія былі ў ложку ў час пажару

МАЛАДЗЕЧНА

Апоўдні 31 студзеня на "101" паступіла паведамленне аб пажары ў доме па Вялікім Гасцінцы ў Маладзечне.

Калі выратавальнікі прыбылі на месца, ішоў дым з акна кватэры на першым паверсе.

Гаспадара дома на той час, як пачаўся пажар, не было.

Работнікі МНС выратавалі мужчыну і жанчыну, што знаходзіліся ў ложку, мяркуецца, у стане алкагольнага ап'янення. Выратаваныя – сужыцелька і знаёмы гаспадара.

Пацярпелыя з папярэднім дыягназам "атручэнне прадуктамі гарэння" былі шпіталізаваныя.

Эвакуацыя жыхароў не спатрэбілася.

Агнём пашкоджаныя мэбля і маёмасць, закураныя сцены ў кухні.

Прычына пажару высвятляецца. Меркаваныя версіі – пакінутая на пліце ежа і неасцярожнасць пры курэнні.

**Паводле МНС.**

ТЭМА НУМАРА



Асаблівую ўвагу доктар раіць звярнуць на хворых дзяцей. Фота meteo-prog.ua

# Дактары ў рэгіёне: мы на ўздыме прастудных захворванняў

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ

**Ці хварэюць на грып у нашым рэгіёне? А, можа, увогуле, ужо пачаліся масавыя захворванні? Што рабіць, каб не захварэць? І што – калі ты ўсё ж захварэў.**

Ніхто не адкажа на гэтыя пытанні лепш за саміх дактароў.

У Вілейцы і ў Маладзечне эпідэміі грыпу няма, пераконваюць дактары.

Па словах загадчыцы Вілейскай паліклінікі **Тацціяны Рамеры**, на Вілейшчыне ўзрасла колькасць вострых рэспіраторных захворванняў.

Аналізы людзей, якія звяртаюцца з тэмпературай вышэй за 38,5, накіроўваюць у абласную санстанцыю. Грып пакуль пацвердзіўся толькі ў двух чалавек. А накіроўвалі аналізы 15. Без такога даследавання нельга вызначыць грып.

Як расказала галоўны доктар дзіцячай паліклінікі ў Маладзечне **Іна Саўчык**, сярод іх пацыентаў пакуль няма ніводнага з грыпам. Ёсць неістотны сезонны пад'ём вострых рэспіраторных захворванняў.

### Загадчыца смаргонскай паліклінікі Ганна Пяшкур: пакуль назіраем толькі прастуды

– Кожны раз на пяціхвілінках мы абмяркоўваем сітуацыю з грыпам у Смаргонскім раёне, – распавёў "Рэгіянальнай газеце" намеснік галоўнага доктара Смаргонскай раённай бальніцы **Сяргей Харужык**. – Усплёску хваробы тут пакуль няма.

Яго словы пацвердзіла і загадчыца раённай паліклінікі Смаргоні **Ганна Пяшкур**. Сярод дарослых, кажа яна, грыпу няма дакладна. Сустракаюцца эпізадычныя вострыя рэспіраторныя захворванні, звычайныя для зімы.

– Спрагназаваць, які будзе сёлета грып, мы пакуль не можам, – расказала загадчыца. – Звычайна да нас прыходзяць афіцыйныя звесткі з краін, дзе ўжо пачалося захворванне, – з Расіі, Украіны. Пакуль нават такой інфармацыі няма.

### Як засцерагчыся ад хваробы?

**1. Варта зрабіць прышчэпку**

Але калі вы яе не зрабілі, то ўжо і не зробіце. Проста, улічыце на будучае, раіць Ганна Пяшкур. Прышчэпку трэба было зрабіць да 1 снежня. Вакцына дзейнічае на працягу шасці месяцаў. Сёлета прышчапіліся 45% смаргонцаў. Асаблівую ўвагу звярталі на сталых людзей, дзяцей, хранічна хворых.

**2. Менш кантактаваць з наваколлем**

Па магчымасці мінімізаваць кантакты. Асабліва ва ўстановах, дзе могуць быць людзі, хворыя на грып.

**3. Правільна паводзіць сябе, калі дома хворы**

Па магчымасці выдзеліць хвораму на грып асобны пакой, асобны посуд, прадметы асабістай гігіены.

**4. Піць вітамінныя комплексы і імунастымулятары**

Гэта ўжо тады, калі пачалася эпідэмія.

### Як лячыцца?

1. Піць супрацьвірусныя прэпараты.
2. Ні ў якім разе не пераносіць хваробу "на нагах".
3. Не лячыцца самастойна і з дапамогай інтэрнэта. Выклікаць доктара.

### Калі дзіця цягнецца за цацкай – гэта добры знак: як быць з хворымі дзецьмі

Асаблівую ўвагу Ганна Пяшкур раіць звярнуць на дзяцей. Калі хворае дзіця цягнецца за цацкай або планшэтам, кажа Ганна Пяшкур, гэта добры знак. Значыць, ніякіх ускладненняў няма.

Калі ж яно вялае, нават са збітай тэмпературай, трэба званіць ва ўсе званы.

Падымайцеся да хворага дзіцяці ноччу. Часта бацькі, стомленыя за дзень, не робяць гэтага. А трэба абавязкова і тэмпературу правераць, і за дыханнем паназіраць.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99

### Ці можна дома самастойна рабіць уколы, прапісаныя ў паліклініцы

Пасля смяротнага выпадку на Маладзечаншчыне і ўскладненняў ад ін'екцый антыбіётыкаў мы звярнуліся да дактароў з пытаннем: "Ці можна самастойна рабіць уколы дома?"

У Смаргонскай раённай бальніцы расказалі, што уколы неабходна рабіць толькі ў медыцынскай установе пад наглядам медыкаў. Адразу ж хвораму выпісваюць накіраванне ў працэдурны кабінет. Так было заўсёды. Часта задаюць пытанне, ці можа зрабіць укол нехта з членаў сям'і, калі ён медык па адукацыі. Гэта пытанне трэба абмеркаваць з доктарам, які прызначае лекі. І ўсё ж прэпараты для дапамогі ў выпадку анафілактычнага шоку ёсць толькі ў медыцынскіх установах.

**Аддзел інфармацыі.**

## Купляў прадукцыю ў сына ўтрая даражэй

### Кіраўніка аграфірмы на Маладзечаншчыне падазраюць у карупцыі

МАЛАДЗЕЧНА

**11 студзеня пракуратура Маладзечанскага раёна па матэрыялах аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю райаддзела міліцыі узбудзіла крымінальную справу па артыкуле "Перавышэнне ўлады ці службовых паўнамоцтваў".**

Па меркаванні аператыўнікаў, кураўнік жадаў пасадзейнічаць сыну ў прадпрымальніцкай дзейнасці, выкарыстоўваючы службовае становішча. Для гэтага парушыў парадак закупкі тавараў са сродкаў прадпрыемства, закупіў 9,6 тоны блока-лізунца амаль на 18 тысяч рублёў.

Дырэктара аграфірмы не спыніла, што на прадукцыю не было сертыфікатаў. І нават тое, што аналагічная сертыфікаваная прадукцыя ўтрая танней у іншых пастаўшчыкоў. Напэўна, бацькоўскія пачуцці, падмацаваныя жаданнем атрымаць са здзелкі выгаду для сябе і сям'і, аказаліся мацнейшымі за законы, пастановы і інструкцыі.

Шкоду прадпрыемству ацанілі ў 5 670 рублёў. Супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю пачалі праверкі па ўсіх дагаворных адносінах паміж сельгаспрадпрыемствам і фірмай сына яго кіраўніка.

Вынік не прымусіў сябе чакаць. Як высветлілі аператыўнікі, кіраўнік дзяржпрадпрыемства, акрамя асноўных функцый, дапамагаў сыну, які быў дырэктарам таварыства з абмежаванай адказнасцю і фермерскай гаспадаркі, наладжваць бізнес. Прычым дапамагаў большай часткай за кошт дзяржавы. Чым бы ні займаўся сын, усё гэта хутка станавілася патрэбным і набывалася дзяржпрадпрыемствам.

Жадаючы дапамагчы сыну, бацька заплюшчваў вочы на цану прадукцыі і неабходнасць праводзіць канкурэнтныя працэдуры. Хаця каб надаць легальнасці іх камерцыйным адносінам, бацька і сын афармлялі дакументы аб правядзенні канкурэнтных працэдур. Але, як правіла, заднім чыслом і ў якасці канкурэнта прапановы падавалі структуры, якія спецыяльна для гэтага ствараў сын.

Напрыклад, у чэрвені 2014 года бацька-дырэктар, перавысіўшы службовыя паўнамоцтвы, заключыў дагавор з сынам на пастаўку 60 тон блока-лізунца на 170 тысяч рублёў. У выніку прадпрыемства атрымала шкоду больш чым на 58 тысяч.

Падазраванаму пагражае да дзесяці год пазбаўлення свабоды з канфіскацыяй маёмасці.

**Паводле Уладзіміра ЕМЯЛЬЯНАВА, начальніка упраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю УУС Мінаблвыканкама.**

## Палявалі ў забароненым месцы і парушалі правілы палявання

МАЛАДЗЕЧНА

У апошнюю нядзелю студзеня скончылася самае масавае і, мабыць, самае займальнае паляванне – на пушныя віды паляўнічых жывёл.

Не ўсе паляўнічыя выконвалі Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання. У канцы 2016 года затрымалі жыхара Маладзечанскага раёна, які са стрэльбай паляваў на зайца, маючы пры сабе паляўнічыя патроны з куляй і карцеччу.

Як вынік, за ігнараванне Правілаў яго прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці ў памеры 20 базавых велічынь (420 рублёў) з пазбаўленнем спецыяльнага права палявання тэрмінам на 6 месяцаў.

За тыдзень да закрыцця палявання затрымалі чатырох паляўнічых, якія са стрэльбай палявалі ў забароненым месцы – у населеным пункце і садовым таварыстве. У дачыненні да іх склалі пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэннях. Меру пакарання для кожнага вызначыць суд.

**Пётр ЦЫВІЛЬКА, намеснік начальніка Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## “Зоркі” нараджаюцца ў гімназіі-каледжы

МАЛАДЗЕЧНА

**Фінал творчага конкурсу “Зорны капеж” прайшоў у гімназіі-каледжы мастацтваў 28 студзеня.**

У конкурсе прынялі ўдзел таленавітыя навучэнцы гэтай навучальнай установы. Кожны ўдзельнік атрымаў прыз у тэатральных, музычных, харэаграфічных намінацыях. Зала была напоўненая атмасферай мастацтва і радасці. А самай галоўнай і нечаканай падзеяй канцэрта стала выступленне выпускнікоў 2016 года.

Стварыць гурт юныя музыкі хацелі яшчэ ў 10 класе, але неяк усё не адважваліся. У выпускным класе цвёрда вырашылі ажыццявіць сваю мару. Над назвай думалі нядоўга і спыніліся на сімвалічнай Final Beat, што азначала фінальны акорд. Выступілі на “Зорным капяжы-2016”, і справы пайшлі ў гору. Паказалі свае ўменні і ў Германіі, калі ездзілі па абмене. Затым быў раённы фестываль “Час жыць!” і трэцяе месца ў ім.

– Сёлета мы прыйшлі на паўфінал “Капяжу” як гледачы, але вырашылі парадаваць усіх у фінале. Рэпеціраваць было не проста, таму што ўсе вучацца ў розных універсітэтах, і ў гэты час якраз ішла сесія. Але ўсё ж такі адна рэпетыцыя поўным складам удалася. Мы хваляваліся, не ведалі, якая будзе рэакцыя. Не чакалі, што падчас выступлення Final Beat усё ў зале ўстануць, а потым папросяць праспяваць “на біс”. Гэта вельмі прыемна! – падзялілася ўражаннямі выпускніца гімназіі-каледжа мастацтваў **Дыяна Бажко**.

У бліжэйшых планах групы вывучыць некалькі новых песень і зладзіць сольны канцэрт.

Валерыя ЛУЖЫНСКАЯ, навучэнка маладзечанскай гімназіі-каледжа мастацтваў.

## Свята дуба ўпершыню пройдзе на Астравеччыне

АСТРАВЕЦ

Яго плануюць правесці ў Варнянах. Дакладная дата святкавання ўдакладняецца, але яго мяркуюць зладзіць у чэрвені.

Месцам правядзення стане архітэктурны ансамбль цэнтра Варнянаў пачатку 19 стагоддзя, а таксама востраў з вежай.

Асноўныя падзеі свята будуць прысвечаны дубу – “віноўніку ўрачыстасці”. У планах арганізатараў выставы і конкурс вырабаў народных майстроў з дубу, конкурс песень і прыпевак пра гэта дрэва-волат. Удзельнікі будуць паліць вогнішчы, плесці вянкі з дубовых лістоў.

Як распавяла начальніца аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама **Наталля Сенюць**, дуб для Астравеччыны мае асаблівае, амаль сакральнае значэнне. Гэта дрэва намаляванае на гербе Астраўца. Акрамя таго, 49% тэрыторыі раёна занятыя лясамі, сярод якіх нямала дуброў.

Тры дубы ў самім Астраўцы прызнаныя помнікамі прыроды, а ўзросту двух недалёка ад вёсак Тракенікі і Страча больш за 500 гадоў.

Усё гэта і дало падставу прысвяціць гэтаму магутнаму дрэву асобнае свята. Арганізатары назвалі яго ўсенародным і разлічваюць, што мерапрыемства прыцягне не толькі мясцовых жыхароў, але і гасцей з іншых абласцей, ураджэнцаў Астравеччыны, турыстаў з Літвы і Польшчы.

Паводле Наталіі ВАЛЫНЕЦ, grodnonews.by.

## Прызначылі новага старшыню Астравецкага райвыканкама

АСТРАВЕЦ



27 студзеня Аляксандр Лукашэнка разглядзеў некаторыя кадравыя прызначэнні, інфармуе president.gov.by. Сярод іншых, старшынёй Астравецкага райвыканкама прызначаны **Ігар Яраслававіч Шалудзін**.

Як піша “Астравецкая праўда”, ён закончыў Гродзенскі сельскагаспадарчы ўніверсітэт і Акадэмію кіравання па спецыяльнасцях вучоны аграном і спецыяліст у галіне кіравання.

Практычна ўся дзейнасць звязаная са Смаргонскім раёнам, дзе прайшоў шлях ад вядучага агранома да першага намесніка старшыні райвыканкама.

Аддзел інфармацыі.



Цяпер маладзечанцы выбіраюць пераважна кампактную і ўніверсальную мэблю, таму ў топе продажу вуглавыя канапы. Фота take-goods.ru.

# Чаму маладзечанцы праводзяць усё жыццё на канапах

**Цяпер маладзечанцы выбіраюць пераважна кампактную і ўніверсальную мэблю, таму ў топе продажу вуглавыя канапы і шафы-купэ.**

– Зразумела, што вуглавая канапа вельмі эканоміць прастору ў пакоі, – адзначае дырэктар мэблевай крамы “Мара” **Аляксандр Раманоўскі**. – У шуфлядзы, схаваныя ў мэблю, можна пакласці пасцельную бялізну, адзенне для сну. Калі прыходзяць госці, спальня ідэальна трансфармуецца ў гасцёўню, на канапе змесцяцца ўсе прыйшоўшыя, яшчэ і месца застанецца.

Але Уладзімір Анатольевіч лічыць, што вуглавая канапа добра падыходзіць для маладых сямей, якія жывуць з дзіцем у невялічкай кватэры, на найманым жыллі альбо ў інтэрнаце, бо эканоміць прастору. І вельмі здзіўляецца, калі такі варыянт выбіраюць людзі сярэдняга ўзросту, якія могуць дазволіць сабе больш камфортнае спальнае месца.

– Якой бы зручнай і камфортнай ні была канапа, яе не параўнаць з ложкам, ён больш прыдатны для сну, – заўважае Аляксандр Раманоўскі. – А калі ў дадатак да ложка набыць артапедычны матрац, то пасля ночы вы будзеце адчуваць сябе больш бадзёрым і жыццярадасным. Са свайго досведу магу сказаць, што, паспрабаваўшы адзін раз паспаць на добрым ложку, не хочацца пераходзіць на канапу.

Таму ў спецыяліста і ўзнікае адчуванне, што большасць маладзечанцаў пераважную частку жыцця праводзяць на канапах, а не на больш камфортнай мэблі.

### Раскласці канапу проста, як сказаць “цік-так”

Калі вы ўсё ж такі вырашылі набыць канапу, Аляксандр Раманоўскі раіць звярнуць увагу на адносна свежае вынаходніцтва мэблевай індустрыі – з канструкцыяй “пантограф”, альбо “цік-так”.

Перавагай канапаў з такой канструкцыяй з’яўляецца тое, што яна надзвычай простая ў раскладанні: аснова выцягваецца наперад, дэкаратыўныя падушкі альбо валікі складаюцца ў спецыяльную скрыню, пры гэтым спінка адкладаецца.

Так канапа ператвараецца ў вялікае прасторнае спальнае месца, якое па памерах супастаўляльнае з двухспальным ложкам.

Нягледзячы на разнастайнасць механізмаў, не губляе актуальнасці “кніжка”. Нярэдка пакупнікі разглядаюць толькі гэты варыянт.

### У колерах – стабільнасць

А вось у адносінах да колераў маладзечанцы застаюцца стабільнымі – па-ранейшаму запатрабаваныя карычневы, бэжавы, белы.

**90% продажу прыходзіцца на мэблю такіх колераў і адценняў.**

Хаця вытворцы ўвесь час распрацоўваюць новыя мадэлі, прапануюць разнастайныя колеры. Так, напрыклад, гомельская мэблевая фабрыка “Прагрэс”, з якой не адзін год працуе мэблевы магазін, штогод прапаноўвае пяць-шэсць новых мадэляў. Заўсёды ў наяўнасці больш за 30. Аднак найбольшым попытам карыстаюцца толькі 15 з іх.

– Яркія адценні вытворцы дадаюць праз дэталі, – гаворыць Аляксандр Анатольевіч. – Напрыклад, сама мэбля карычневая, а падушкі рознакаляровыя. Апошнім часам пакупнікі ахвотна набываюць кантрасную мэблю, напрыклад, чырвонае з чорным, чорнае з белым.

Псіхолаг **Таццяна Ждавана** тлумачыць, чым так прыцягваюць пералічаныя вышэй колеры пакупнікоў.

– Бэжавы асацыюецца са спакоем, прымірэннем, мяккасцю. Садзейнічае добраму адпачынку, – зазначае спецыяліст. – Карычневы дае адчуванне ўпэўненасці і надзейнасці, супакойвае, падтрымлівае надзею і жыццёвыя сілы. Чалавек, які аддае перавагу карычневаму, як правіла, натаропкі, ашчадны, здольны пераадолець усе цяжкасці. А вось белы – колер неадназначны. З аднаго боку, дае адчуванне святла, спакою, чысціні, лёгкасці. З іншага, гэта адчуванне пустаты, адзіноты, самоты, расчаравання.

**Спецыялісты “Мары” расказваюць, калі ў продажы з’яўляецца яркая мяккая мэбля, яна адразу прыцягвае погляды пакупнікоў, аднак на смелы варыянт рашаюцца далёка не ўсе. Звычайна такі выбар робяць маладыя пары.**

### Ад мэблі патрабуюць кампактнасці і функцыянальнасці

– Цяпер пакупнік ад мэблі патрабуе большай функцыянальнасці і кампактнасці, – падводзіць выснову дырэктар Мары”. – Мэбля не павінна быць груваслкай, а вось рачаў у ёй хочацца, каб змяшчалася шмат. Вытворцы разумеюць гэта, таму стараюцца ўдасканальваць.

Напрыклад, не карыстаюцца попытам спальныя гарнітуры: ложак, шафа, камод, тумбачкі каля ложка. Звычайна такі камплект выбіраюць пакупнікі пасля 50 гадоў. Маладыя пары стараюцца набыць гэту мэблю паасобку. З шафаў выбіраюць не са стандартнымі дзвярамі, а купэ.

Галіна СУДНІКОВІЧ.




# Куплю
# Прадам
# Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. (80176) **753841, 769667.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**





# ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтапрычэп "Зубраня", 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.ВАЗ 2123
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Рэно-Кенга, 1999 г.в., 1,5 дсі на запчасткі. Т. (8-029) 3400623.*
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- ФВ-Вента, 1994 г.в., дызель, механіка, седан, 5-дзверны. Т. (8-044) 7470997.*
- А/шына зімовая на дысках ВАЗ Белшына 17s-х70 R13 54508 – 2 шт. Т. Вэлком (8-029) 1691284.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- Запчасткі б/у да Аўдзі-80 В3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- Запчасткі б/у да ВАЗ-2101. Т. (8-044) 4703638.
- Запчасткі б/у да Опель-Астра, 1997 г.в., 1,6 мона, хэтчбэк. Т. (8-044) 4703638.
- Запчасткі б/у да ФВ-Пасат В3. Т. МТС (8-029) 8777677.*
- Запчасткі да Опель-Асконы. Ёсць амаль усё. Т. (8-029) 2610362.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*





- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДАРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль на запчасткі, можна аварыйны. Т. Вэлком (8-029) 3232949.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Аўто ў любым стане. Дорага. Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Аўто, якое патрабуе тэрміновага продажу (іншамарку). Т. МТС (8-029) 8762233.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Каталізатар для аўтамабіля. Т. (8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

- Аўтамайстэрня: кузаўны рамонт, зварачныя работы, рамонт бампераў, рамонт падвескі і інш. ІП Навумчык В.М. УНП 691894316 Тел. (8-025) 7069601, (8-029) 9715818.*
- Камп'ютарная дыягностыка аўто, чып-цюнінг, аднаўленне шаравых апор, выдаленне ЕГР, сажавага фільтра, каталізатара. chipauto.by ПУП "ЛенВіРо" УНП 691505812 Т. (8-029) 3426222.*

### ПАСЛУГІ

- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 2-пакаёвая кватэра, 47,9 кв. м, у Вілейцы па вул. Чапаева. Т. (8-029) 7660483.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Тэрмінова! Т. (8-029) 5527421.*
- 3-пакаёвая кватэра ў а.г. Залессе; агарод, гаспадарчыя пабудовы, тэлефон. Т. Вэлком (8-029) 6125469.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6842528.
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Крынічнай, д.25. Т. (8-029) 3840109.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-паверховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж у ГБК-2, нядорага. Т. (8-029) 6842528.*
- Дом жылы драўляны ў Вілейцы, раён школы №3, ацяпленне, вада. Т. (8-029) 7589686.
- Дом жылы ў вёсцы Порса. Т. (8-033) 3011041.
- Дом у в. Каловічы. Т. (8-033) 3501070.
- Дом у Валожыне. Т. Вэлком (8-029) 6855410.*
- Дом у вёсцы Вялікая Боркаўшчына Маладзечанскага р-на, д.13. Т. (8-0176) 541549, (8-029) 2301956.*
- Дом у цэнтры Маладзечна, драўляны, газ, вада. Т. (8-029) 6691789.*
- Участак 0,2 га з домам і гаспадарчымі пабудовамі на беразе ракі Нарачанка ў в. Кузьмішкі Вілейскага раёна. Ёсць калодзеж, сад, электрыфікацыя 220 Вольт. Т. (8-029) 1748084.

### ЗДАМ

- **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***
- У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.

### НАЙМУ

- Сям'я з 4-х чалавек нойме дом у Вілейцы на доўгі тэрмін. Т. (8-029) 6028263.

# ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпатывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музыкі на вяселле, юбілей. Шоу-праграма. Тамада. Вакалісты. Баян. Фота. Відэа. ІП Кулікович Т.І. УНП 691292974. Т. (8-033) 3523507, (8-029) 3242015.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- А і В студыя. Відэа і фотаздымкі вяселляў. Якасна і нядорага. ІП Далідовіч В.В. УНП 690340358. Т. (8-029) 1140234.*
- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



- Абслугоўванне і рамонт камп'ютараў. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*
- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ.** vslobode.relax.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*
- Антэны спадарожнікавыя: наладка, абслугоўванне. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*
- **АРГАНІЗАЦЫЯ ВЫКАНАЕ РАБОТЫ ПА ЎСТАНОЎЦЫ ЦЁПЛЫХ АДКОСАЎ НА ВОКНЫ, ДЗВЕРЫ, А ТАКСАМА РАМОНТ ВОКНАЎ ПВХ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ. ПП "Акнаман" УНП 691515273. Т. (8-033) 3756821, (8-044) 5467328.**
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- **ВЫРАБ МЭБЛІ** па індывідуальных праектах (кухні, шафы-купэ). ІП Васілеўскі В.Б. УНП 692011556. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7757788.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, установка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*
- Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Установка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*
- Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, "АТЛАНТ", BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП "Планета інтэлекту" УНП 191763743. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 6228190. Уладзімір.*

- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зеленко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*
- Фундаменты і дах, рамонт дымаходаў. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Блокі газасілікатныя, цэгла. Наяўны і безнаяўны разлік, дастаўка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 6650413 (Вэлком), (8-029) 2275708 (МТС).*
- **БЛОКІ Г/С, ЦЭГЛА, ФБС. ДАСТАЎКА.** ЧП «Бізнес-Дэталь» УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*
- **ВАГОНКА** (сасна, асіна, вольха), **ДОШКІ ДЛЯ ПАДЛОГІ**, шчыт мэблевы, **ЭЛЕМЕНТЫ ЛЕСВІЦ**, плінтус, брусок і інш. ў Маладзечне, вул. Гарадоцкая, 102. www.izlesa.by ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*
- Вагонка для лазні (вольха), дошка (сасна). Дошкі для падлогі. Брус усіх памераў, блок-хаўс, імітацыя бруса. Дастаўка. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*
- Вароты з сеткі-рабіцы, памер 1,5х3,0, брамкі 1,5х1,0, арматура дыяметрам 8,10,12, сетка пад сцяжку 100х100х3, 150х150х4, 50х50х4. Т. (8-029) 6513000.*
- **ПЛІТЫ ПЕРАКРЫЦЦЯ, ПГ6-4 (ПАМЕР 6,0х1,5 м) ПА ЦАНЕ 50 РУБ ЗА 1 ШТ. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Прычэп трактарны 2ПТС-4 з дакументамі. Т. Вэлком (8-029) 3278170.
- Трактар МТЗ-80,1997 г.в., у добрым стане, 7500 руб. Мядзел. Т. (8-044) 7653788.

**Бытавая тэхніка**

- Газавая пліта б/у, памер 60х60, у добрым стане. Танна. Т. (8-0176) 749707, Вэлком (8-029) 1233759.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- **БАРАНЫ І АВЕЧКІ ЖЫВОЙ ВАГОЙ, МЯСАМ.Т. (8-029) 6769359.**
- Кабан свойскі. Т. (8-029) 9304639.
- Кныр в'етнамскай віслабрухай пароды, нядорага. Т. (8-029) 6237550.*
- Свінні ў жывой і забойнай вазе. Т. (8-029) 1110693.
- Свіння жывой вагой альбо мясам. Т. (8-029) 9714041.

**Іншае**

- **ДЗВЕРЫ МІЖПАКАЁВЫЯ І МЕТАЛІЧНЫЯ** стандартных і нестандартных памераў. Замер. Дастаўка. Устаноўка. ІП Васілеўскі В.Б. УНП 692011556. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7757788.*
- Вуглекіслотны балон. Запраўлены. Атэставаны. Т. (8-044) 7470997.*
- Кацёл-печ у лазню, 390 руб. Т. (8-033) 6535349.
- Каляска дзіцячая ў Маладзечне. Цана дагаворная. Т. (8-025) 7887901.
- Сена. Маладзечна. Т. (8-029) 6870898.
- Будка інструментальная, стальная, ёмістасць 3 куб. м. Т. МТС (8-033) 6016803.
- Зруб з кругляка 6х4 м, выдатная якасць. Т. (8-029) 9426956, (8-029) 9426958.*

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

- Камень, шчэбень. Т. (8-029) 6260525.

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

- Прычэп трактарны 2ПТС-4 альбо 1ПТС-2. Мядзел. Т. (8-044) 7653788.

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- Акустычныя калонкі, узмацняльнік, ноўтбук, сістэмны блок, манітор, ЖК-тэлевізар, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5744744.***
- **АНТЫКВАРЫЯТ, МАНЕТЫ, ГАДЗІННІКІ, ФОТААПАРАТЫ, САМАВАР, ФАРФОР, БІЖУТЭРЫЮ І ІНШЫЯ СТАРАДАЎНІЯ РЭЧЫ. ВЫЕЗД. Т. (8-029) 7764214.***
- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Апілкі ў вялікіх аб'ёмах. Маладзечна. Т. (8-029) 5612055.*
- Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*
- Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*
- Рогі лася, шкуркі куніцы. Т. (8-029) 8552646.*
- Сена, салому. Т. (8-029) 6051424.*

### АДДАМ

- У добрыя рукі дарослую кошку (трохкаляровая) і два коцікі 4 месяцы. Т. (8-044) 5733959, (8-029) 2627220.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

- Аддзелачнік: вялікі досвед, тынкоўка, шпаклёўка, шпалеры, уцяпленне, адкосы, падлога, гіпсакардон і інш. Т. (8-029) 2775694.*
- Кровельныя, аддзелачныя, зварачныя, дэмантажныя работы. Кладка блока, цэглы, сцяжкі. Электрыка. Сплюоўванне дрэў. Т. (8-029) 8521268, (8-044) 7556706.
- Майстар-еўрааддзелачнік зробіць кваліфікаваны рамонт ад дробнага да "пад ключ". Т. (8-044) 5724916.*
- Шукаю падпрацоўку. Досвед: тынкоўка, малярныя работы, работы з гіпсакартонам, афарбоўка, плітка і г.д. Т. (8-029) 5526667, (8-029) 3436825.*
- Шукаю працу плітачніка-абліцоўшчыка, муляра. Кладка печаў, камінаў і інш. Т. (8-0176) 751504, (8-044) 4684464.*

### ПАТРАБУЮЦЦА

- Сядзелка для жанчыны (73 гады) з хваробай Паркінсона. Т. (8-029) 3976230, (8-0176) 544630.*

# “На чыстую ваду”

## Як маладзечанская абласная газета 1958 года змагалася з асацыяльнымі элементамі

МАЛАДЗЕЧНА

**Пагадзіцеся, цяпер, калі вам нехта скажа фразу наконт таго, што “а вось Коля з кватэры №25 учора не пайшоў на працу”, гэта падасца дзіцячым садком. І вы такога чалавека, канешне, назавяце плеткаром ці паклёпнікам.**

**А яшчэ 60 год таму ў маладзечанскай абласной газеце “Чырвоны сцяг” такія скаргі былі нормай, для іх выдзялялася цэлая рубрыка: “Наш Вожык” ці “ На чыстую ваду”.**

**Скардзіліся пільныя грамадзяне на гультаёў і дармаедаў, на самагоншчыкаў і алкаголікаў, на спекулянтаў і грубіянаў.**

**Хаця, што тут раказваць, чытайце самі...**




Малюнак з натуры

У калгасе «Сталінская праўда» безгаспадарча адносяцца да сельскагаспадарчага інвентару. Каля калгаснай кузні, на брыгадных дварах пад снегам валяюцца плугі, целегі, бароны, пакінутыя яшчэ з восені. Спатыкнуцца на іх можна ў самых нечаканых месцах.

Набліжаецца вясна, а аб рамонце сельскагаспадарчага інвентару ў калгасе яшчэ не думаюць.

(З пісьма ў рэдакцыю).

Дзед Мароз: Тут усе ногі пераламаеш.

У магазін, што ў вёсцы Мыслевічы Хажоўскага сельсавета, прывезлі хлеб. У гэтым нічога дзіўнага няма – яго сюды кожны дзень прывозяць. Але дзіву можна дацца, паглядзеўшы, як гэты хлеб разгружаецца. Заўмаг Марыя Апіцёнак кліча тады на дапамогу ўсіх, хто праходзіць у гэты час міма магазіна – ці то трактарыст, які толькі ідзе ад трактара і не паспеў яшчэ вымыць рукі і ачысціць адзенне ад мазуты, ці то рабочы, які ў гэты дзень вазіў гной на полі. Носяць хлеб яны, зразумела, без халатаў.

Ды што там гаварыць аб халатах грузчыкаў, калі ў самой загадчыцы адзін халат. Яна ў ім адпускае і прадукты, і газу, і цэмент. Правілы санітары, відаць, не датычацца Марыі Апіцёнак.

**Не вельмі прыемна купляць у гэтым магазіне соль. Захоўваецца яна ў сараі проста на зямлі. Усякая ўсячына сыплецца на соль праз дзіркі ў сараі, яе топчуць нагамі пакупнікі…**

Адна звычка гультаёў усіх: рабіць чужымі бакамі, а ляжаць на сваіх. Гэта прымаўка як быццам складзена пра членаў трэцяй паляводчай брыгады калгаса “Сталінец” Паўліну, Марыну і Веру Дашкевіч, Маланню Відаўскую.

Самы любімы іх занятак – дома на печы ляжаць, бакі свае грэць. Пралежалі яны большую частку мінулага года. А сёлета іх “хвароба” прагрэсіруе. Ідзе ўжо трэці месяц новага года, а гэтых лежабокаў бачылі на рабоце, бадай, тры дні, не больш.

Некаторыя навучэнцы рамеснага вучылішча №8 на торфапрадпрыемстве “Беразінскае” парушаюць правілы паводзін.

Дырэктар вучылішча Дзмітры Якаўлевіч Коўрыкаў, чалавек непахісны і рашучы, неадкладна прыняў самыя строгія меры адміністрацыйнага ўздзеяння. Ён узяў ручку, падсунуў да сябе чарнільніцу і напісаў грозны загад. Вось ён:

“ Учащегося групы №3 Чабай за поломку тубаретки и выбрашенную через форточку на улицу по размыканию электропроводов объявить строгий выговор, а нанесённый ущерб государству выразившийся в поломке одной тубаретки купить и вставить одну шибу форточного стекла”.

Загад гэты быў вывешаны ў інтэрнаце і выклікаў цэлы перапалох. Яшчэ б! Сярод навучэнцаў нямала хлопцаў з сярэдняй адукацыяй. Яны толькі дзіву даваліся, чытаючы літаратурныя практыкаванні т. Коўрыкава. Многа непаразуменняў выклікае гэты загад, але адно зразумела: Коўрыкаву, перад тым, як садзіцца пісаць загады, не перашкаджае ўспомніць правілы рускай мовы.

Нядаўна да будынка Маладзечанскага гарадскога аддзела міліцыі пад’ехаў аўтобус, які ішоў рэйсам з Юрацішак. Калі работнікі міліцыі ўвайшлі ў аўтобус, іх вачам прадстала даволі непрыстойная карціна. Раскудлачаная і п’яная жанчына асыпала адборнай лаянкай шафёра, кандуктара і пасажыраў.

– Я юрыст! Я вам яшчэ пакажу, – трасла яна кулакамі.

**Хуліганка, якая прыставала ўвесь рэйс да пасажыраў, сапраўды, аказалася юрыстам, натарыусам з Ашмян Т.Я. Ермаковай.**

Агульнымі намаганнямі пасажыраў і міліцыі натарыуса сяк-так уціхамірылі. Але цікава, ці не лічаць кіраўнікі абласной калегіі адвакатаў, што Ермакова ні ў якім разе не ўпрыгожвае сваёй персонай высокае і ганаровае званне работніка юстыцыі?

У вёсцы Груздава стаіць шматгалосы шум. Гэта забаўляюцца механізатары трактарнай брыгады калгаса “Сталінская праўда” . Пад кіраўніцтвам брыгадзіра Цярэшкі трактарысты ў працоўны час у гарачыя дні палявых работ арганізавалі катанне на мясцовай сажалцы. Для гэтага яны знялі камеру ад кола з трактара “Беларусь” і напампавалі. На яе паклалі дзверы, якія спецыяльна для гэтага знялі з кузні. Усё гэтае збудаванне было ўрачыста спушчана на ваду, і трактарысты, гарлапанячы песню: “Мы едем, едем, едем в далёкие края! ”, на чале з брыгадзірам адправіліся ў падарожжа па сажалцы. Наўрад ці з такой дысцыплінай далёка паедзеш.

У Маладзечне ёсць ветлячэбніца. Але яе работнікі занятыя не столькі лячэннем жывёл, колькі адпачынкам у працоўны час. Датэлефанавацца да іх немагчыма. А калі вы з’явіцеся туды і папросіце прыйсці агледзець хворае парася, то вам прапануюць або прывезці яго ў лячэбніцу, або наняць аўтамабіль для дастаўкі на месца ветэрынарнага работніка.

Нядаўна я зайшоў у кіёск на Вакзальнай плошчы і купіў каўбасу. Але ўжываць яе было нельга: прадукт аказаўся сапсаваным. Спрабаваў вярнуць яе прадаўшчыцы Якаўлевай, яна адмовілася замяніць. Пры гэтым супакоіла мяне: “ Еще, нічога з вамі не зробіцца, не памраце”. Давялося звярнуцца ў чыгуначную санэпідэмстанцыю. Там адказалі тое самае. Але я так і не рашуўся есці сапсаваную каўбасу. І наўрад ці сталі б яе ўжываць тыя, хто гарантаваў мне жыццё.

**Асобная рубрыка такога выкрыцця нядобрасумленных грамадзян называлася “Фотаабвінавачванне”.**

**Тут да такіх жа выкрывальных артыкулаў дадаваліся і фотаздымкі парушальнікаў. Як вам спадабаецца такое?**

Не падумайце, што гэта знатная даярка, якую сфатаграфавалі на фоне бідонаў з надоеннай ей рэкорднай колькасцю малака. Не! Калі Е.А. Мукланові і паставіла рэкорд, то толькі па частцы самагонаварэння. Абодва гэтыя бідоны да краёў запоўненыя самагонкай, якую Мукланові перапрадае з яўнай выгадай.

– Гэта я купіла для памінак, – усміхаецца і лжэ ў вочы следчаму спекулянтка.

Гэта яшчэ не старая жанчына жыве ў Маладзечне, не займаецца грамадска-карыснай працай.

На здымку Мукланові ўсміхаецца. Відавочна, яна спадзяецца, што ўсё абыдзецца добра. Наўрад ці. Слова за судом!




Будзьце знаёмы. Гэта намеснік дырэктара нарыхтоўчай канторы Маладзечанскага райспажыўсаюза В.В. Адзінец. Яго сфатаграфавалі на прывакзальнай плошчы ў Маладзечне. Не падумайце, што Віктар Васільевіч захварэў і таму яго паклалі на насілкі. Не, вяртаючыся з камандзіроўкі, ён выпіў лішняга, і санітарам прыйшлося выносіць яго з цягніка. Як бачыце, Адзінец спіць салодкім сном праведніка. А якім будзе абуджэнне?




**Цікава, што праз некаторы час газета друкавала матэрыялы пра тое, што факты пра п’янства або пра продаж пратэрмінаванай прадукцыі пацвярджаліся. У такіх матэрыялах тады пісаліся меры, якія былі прынятыя да тых, хто правініўся. Ад строгай вымовы да звальнення.**

**Уяўляю, як было атрымаць раншэй такую газету, дзе пра цябе напісалі такое!**

**У занальным дзяржаўным архіве ў Маладзечне працавала Наталля ТУР.**

● КАЛЯНДАР

4 ЛЮТАГА

**60 гадоў** назад (1957) памёр Браніслаў Ямант, мастак, педагог. Тагачасныя мастацкія крытыкі аднагалосна прызнавалі яго адным з найзнакамітых і адначасова аднаго з найбольш арыгінальных прадстаўнікоў так званай Віленскай школы. У 30-я гады 20 стагоддзя Ямант дасягнуў многіх поспехаў; яму пасля смерці Фердынанда Рушчыца ў 1936 годзе перайшло кіраўніцтва кафедрай пейзажнага жывапісу факультэта прыгожых мастацтваў Віленскага ўніверсітэта.

**1934 год.** Нарадзіўся Арсень Ліс, беларускі фалькларыст, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук (1997), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986). Нарадзіўся ў вёсцы Вётхава, цяпер Смаргонскі раён. Аўтар даследаванняў па гісторыі культуры, жанрах беларускага фальклору, фалькларыстыкі.

5 ЛЮТАГА

**1637 год.** У Вільні памёр Язэп Вельямін Руцкі, царкоўна-палітычны дзеяч, уніяцкі мітрапаліт, пісьменнік-палеміст. Пахаваны ў Святатраецкім манастыры.

8 ЛЮТАГА

**25 гадоў** з часу заснавання (1992) Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій, добраахвотнага аб’яднання грамадзян, якія пацярпелі ад палітычных рэпрэсій.

**130 гадоў** назад (1887) нарадзіўся Уладзіслаў Талочка, беларускі рэлігійны і культурна-асветны дзеяч, культуролаг, гісторык, літаратурны крытык. З кастрычніка 1906 семінарыст Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. У 1909 пасвечаны ў святара. У 1909-14 вывучаў тэалогію і філасофію ў каталіцкім універсітэце ў Інсбруку (Аўстрыя). З 1914 святар у Вільні. Адзін з першых пачаў ужываць беларускую мову ў набажэнствах. У 1915-18 гадах – адзін з ініцыятараў і арганізатараў Віленскага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны, беларускага дзіцячага прытулку “Золак”. З 1920-х праследаваўся польскімі савецкімі і дзяржаўнымі ўладамі. 15.12.1938 як “нядобранадзейная асоба” высланы ў Беласток.

**125 гадоў** назад (1892) у Маскве нарадзіўся Яўген Фамінскі, стваральнік і арганізатар Валожынскай раённай бальніцы.

**95 гадоў** назад (1922) у Радашкавічах пачала работу беларуская гімназія імя Францішка Скарыны. Выкладалі ў ёй Фелікс Стацкевіч, Язэп Гаўрылік, Ігнат Дварчанін, Язэп Драздовіч, інш.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Маладзечанская артыстка пра смерць Аляксандра Ціхановіча: “Адчуванне, што не стала некага блізкага, роднага, свайго”

МАЛАДЗЕЧНА

**Смерць легендарнага музыканта Аляксандра Ціхановіча глыбока перажываюць не толькі яго родныя і знаёмыя, але і аматары творчасці, тыя, хто меў магчымасць працаваць разам з ім.**

Маладзечанка **Наталля Арловіч**, артыстка, вядучая і арганізатар святаў, пазнаёмілася з музыкантам за кулісамі Палаца прафсаюзаў у Мінску. У 2011 годзе яе запрасілі выступіць на канцэрце, прысвечаным юбілею Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце.

– Вельмі хвалявалася і нервавалася перад выступленнем, хаця адначасова мяне распірала ад радасці, што запрошаная на канцэрт такога ўзроўню, – узгадвае жанчына. – Аляксандр Ціхановіч убачыў маё хваляванне, падышоў, стаў падтрымліваць, расказваць гумарыстычныя гісторыі, пытаўся, адкуль я, колькі гадоў ужо спяваю. Я і не заўважыла, як аб'явілі мой нумар. На сцэну выходзіла спакойная і ўпэўненая ў сабе, выдатна выканала песню. Пасля канцэрта Аляксандр Рыгоравіч запрасіў мяне ў студыю для праслухоўвання. Я ўдзячная яму за тыя хвіліны падтрымкі, словы перад выступленнем. Яны заўсёды гучаць у галаве, калі ахопліваюць падобныя эмоцыі.

У 2016 годзе Наталля зноў мела магчымасць выступаць з музыкантам на сцэне Дома афіцэраў на дабрачынным канцэрце для дзяцей з асаблівасцямі.

– Я заўважыла, як Аляксандр Рыгоравіч схуднеў, – з болем ўзгадвае Наталля. – Тады закралася думка, што, пэўна, хварэе. Я папрасіла яго разам з **Ядвігай Паплаўскай** сфатаграфавацца з дзецьмі, якія выступалі на канцэрце. Ядвіга Канстанцінаўна доўга пераапраналася, таму артыст жартаваў: “Ядзя, давай хутчэй, артысты чакаюць”. Дзеці былі вельмі шчаслівыя гэтаму знаёмству.

Пачуўшы навіну пра тое, што Аляксандра Ціхановіча не стала, жанчына вельмі расстроілася.

– Гэта чалавек-легенда для беларускай эстрады, – адзначае Наталля Арловіч. – Многія мае знаёмыя, пачуўшы навіну, тэлефанавалі, узрушаліся тым, што не стала цудоўнага чалавека. Такое адчуванне, што не стала некага блізкага, роднага, свайго.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**



Фота забяспечана Вольгай АРЛОВІЧ.

Вольга Арловіч з Аляксандрам Ціхановічам у 2011 годзе.

# Рыгор Сарока: **“Ведаю, шт… перад смерцю тэлефана… епіскапу, каб той памал…**

МАЛАДЗЕЧНА

**Дырэктар музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага Рыгор Сарока і Аляксандр Ціхановіч пасябравалі яшчэ з таго часу, калі музыкант быў навучэнцам маладзечанскага музычнага вучылішча.**



Сваякі і прыхільнікі Аляксандра Ціхановіча назаўжды запомняць яго з… стараўся ўсміхацца і падбадзёрваць блізкіх, якія былі побач.

– У той час (70-я гады) я быў загадчыкам аддзялення народных інструментаў, – расказвае Рыгор Сарока. – Аляксандр Ціхановіч паступіў у музычнае вучылішча завочна на аддзяленне духавых і народных інструментаў, гэта быў выдатны тубіст. Ужо ў той час Ціхановіч быў знакамітым музыкантам, якога ведаў увесь Савецкі Саюз, гастролі па розных гарадах не спыняліся. Зразумела, што на сесію ён не заўсёды прыязджаў своечасова, дзеля яго пераносілі нават экзамены, залікі. Калі па іншых прадметах і былі праблемы, то тое, што датычыцца музыкі, здаваў на выдатна. Гэта была яркая, таленавітая асоба, заўважная сярод астатніх.

Як адзначае дырэктар музычнага каледжа, калі б Ціхановіч не скончыў вучылішча ў Маладзечне, не змог бы ў далейшым атрымаць годную музычную адукацыю.

– Вучылішча стала добрай прыступкай для далейшага навучання, – разважае Рыгор Сямёнавіч. – Пасля яго заканчэння музыкант змог паступіць на духавое аддзяленне Беларускай кансерваторыі таксама на завочную форму.

### “Сцэна забірала шмат сіл, але і падсілкоўвала”

Апошні раз даўнія сябры сустрэліся на закрыцці культурнай сталіцы ў Маладзечне, якое было летась у снежні. Рыгор Сарока адкрываў пачатак мерапрыемства, Аляксандр Ціхановіч і **Ядвіга Паплаўская** выступалі напрыканцы.

– Як аказалася, гэта быў яго апошні прыезд у Маладзечна, – з сумам расказвае Рыгор Сямёнавіч. – Бачна было, што ён вельмі схуднеў, стаў выглядаць старэйшым. Дрэнна сябе адчуваў, але трымаўся малайцом. Яго блізкае акружэнне ведала пра страшную хваробу, ён і сам неаднаразова расказваў, як лятаў на лячэнне. Аднак і хвароба не здолела адбіць жаданне выходзіць на сцэну, быць побач з прыхільнікамі, не развітвацца з музыкай. Мяркую, што сцэна забірала шмат сіл, але і падсілкоўвала станоўчай энергіяй.

У студзені Аляксандр Ціхановіч удзельнічаў у канцэрце на уручэнні прэміі “За духоўнае адраджэнне”, падчас якога ўзнагароду атрымаў Палац культуры ў Маладзечне і музей-сядзіба Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі. Пасля было выступленне на прэзідэнцкім балі.

### Настасся Ціхановіч: “Ён хацеў заставацца на сцэне столькі, колькі гэта будзе магчыма”

– Свой апошні канцэрт 13 студзеня на прэзідэнцкім балі ён адпрацаваў, а 14 студзеня трапіў у бальніцу, – расказала аднаму з выданняў дачка артыста **Настасся Ціхановіч**. – Яму было вельмі цяжка ўжо 13 студзеня, і ўсе гэта бачылі. Але ён зрабіў усё, што змог.

Аляксандр Ціхановіч быў у шпіталі пад кіслароднай маскай амаль два тыдні, але ў тыя моманты, калі яе здымалі, стараўся ўсміхацца і спрабаваў падбадзёрыць родных, якія былі побач.

Артыст памёр а шостай гадзіне раніцы 28 студзеня ў рэанімацыі дзясятай гарадской клінічнай бальніцы Мінска.

Музыкант хварэў на аўтаімуннае захворванне лёгкіх – ідыяпатычны фібразуючы альвеаліт. Гэта даволі рэдкае захворванне, з якім жывуць тры-чатыры гады, музыкант пражыў з ім амаль сем. Тое, што артыст так моцна схуднеў за апошні год, – адна з праяў хваробы.

– Радыкальнага лячэння на сённяшні дзень не існуе, яго можна толькі тармазіць, чым мы і займаліся ўвесь гэты час, – распавяла Насця. – Год таму стан таты пагоршыўся, і ён таксама доўга ляжаў у бальніцы. Мы рабілі ўсё, што можна, ён ез-

# ...го Ціхановіч ...ваў маладзечанскаму ...іўся за яго"


Фота rg.ru

...бадзёрай і жыццярадаснай усмешкай. Апошнія два тыдні жыцця ён правёў пад кіслародной маскай, калі яе здымалі,

...дзіў на лячэнне ў Германію. На жаль, ад захворвання немагчыма вылечыцца. Тата вельмі не хацеў, каб пра захворванне ведала шырокая грамадскасць. Таму мы не рабілі публічных заяў, не збіралі сродкі. Ён хацеў заставацца актыўным, быць на сцэне столькі, наколькі гэта будзе магчыма.

### За Ціхановіча маліліся ў Маладзечне

– Пра тое, што Саша сышоў з жыцця, я даведаўся раніцай у суботу ад свайго вадзіцеля, – расказвае Рыгор Сямёнавіч. – Гэта навіна не была для мяне, як гром сярод яснага неба, я ведаў, наколькі дрэнна ён сябе адчуваў. Як гэта ні сумна гучыць, такі сыход хваробы можна было спрагназаваць.

> Ведаю, што напярэдадні таго, як Ціхановіч трапіў у бальніцу, ён патэлефанаваў епіскапу Маладзечанскаму і Стаўбцоўскаму Паўлу і сказаў: "Памаліцеся за мяне, бо мне вельмі дрэнна". Ведаю, што службы ішлі ў маладзечанскіх цэрквах.

Рыгор Сарока не мог не развітацца з сябрам, прысутнічаў на паніхіднай службе, якая была ў Мінску.

– Па тым, колькі прыйшло людзей, бачна, што гэта вялікая страта не толькі для блізкіх і сяброў, але і для ўсяго народа, – з сумам зазначае Рыгор Сарока. – Гэта і зразумела, яго многія любілі, цанілі. Ды і немагчыма было не любіць такога светлага чалавека.

**Даведка "РГ".** Туба – медны духавы інструмент.
Памяць пра артыста засталася ў музычнага каледжа імя Агінскага дзякуючы запісаным песням з маладзечанскім аркестрам.


Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

## Напішы мне такую песню, каб Ядзя паслухала яе і заплакала: Уладзімір Някляеў успамінае пра Аляксандра Ціхановіча

СМАРГОНЬ

> 28 студзеня не самы лепшы дзень... Дзень памяці Генадзя Грушавога (заснавальнік фонду "Дзецям Чарнобыля" – "РГ"), якога не стала роўна тры гады таму, і дзень зыходу Аляксандра Ціхановіча, –

падзяліўся сваімі пачуццямі паэт, палітык, ураджэнец Смаргоні **Уладзімір Някляеў.**

Гэта людзі, якіх я любіў, якія былі для мяне, кожны па-свойму, дарагімі, блізкімі ў жыцці. Такімі ж застаюцца і ў смерці, кажа паэт.

А яшчэ **Ядвіга Паплаўская** і Аляксандр Ціхановіч праспявалі ў дуэце не адну песню на словы Някляева.

Калі запісалі песню "Любові развітальны баль", якую ўдала выканаў Аляксандр Ціхановіч у дуэце з Ядвігай Паплаўскай, успамінае Някляеў, ён раптам папрасіў: "Напішы вершы для раманса".

Я адмахнуўся: маўляў, які з цябе "раманcіст". Але ён упарта да гэтага вяртаўся:

"Хачу раманс праспяваць. Так, каб Ядзя заплакала..."

Урэшце я напісаў вершы, Раінчык павінны быў напісаць музыку, але тут канфлікт у "Верасах", – і стала не да рамансаў... Не ўзнікла музыка.

З часам я пра раманс гэты й забыўся. І вось сёння, назаўсёды развітваючыся з Аляксандрам Ціхановічам, абняўшы Ядзю, якая заплакала, успомніў.

Аксана ЯРАШОНАК.

> Аляксандр Ціхановіч стаў героем някляеўскага рамана "Лабух" пад прозвішчам Тырда. Гэта ягоная, кажа пісьменнік, усім музыкантам вядомая мянушка.



Фота забяспечана Уладзімірам НЯКЛЯЕВЫМ.

Уладзімір Някляеў (у кепцы ў сярэдзіне) з "Верасамі" ў Германіі. Аляксандр Ціхановіч стаіць у апошнім радзе ў акулярах.

## Як здаць другасную сыравіну і чым яна стане пасля апрацоўкі

ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН

**Спісаныя сшыткі, пластыкавыя і шкляныя бутэлькі, халадзільнікі, якія адпрацавалі сваё, і сцёртая аўтамабільная гума.**

Куды падзець усё гэта багацце, каб і месца вызваліць, і прыродзе не нашкодзіць. А можа, яшчэ і грошы атрымаць.

Пра гэта вам раскажуць у жыллёва-камунальных гаспадарках рэгіёна. Тут практыкуюць збор другаснай сыравіны.

У Вілейскай ЖКГ распавялі, што збіраюць бітае шкла (бутэлькі і слоікі), паперу, кардон, чысты поліэтылен. За гэта вы можаце атрымаць грошы. За кілаграм кардону і паперы, а таксама поліэтылену вам дадуць 10 капеек, за столькі ж бітага шкла – 70 капеек.

Збіраюць таксама і электронна-электрычнае абсталяванне, якое адслужыла свой век. Гэта халадзільнікі, тэлевізары, газавыя пліты, пральныя машыны, пыласосы. Усё забяруць у вас бясплатна.

Для гэтага па тэлефоне можна выклікаць машыну з ЖКГ. А можна пакінуць тэхніку на спецыяльнай пляцоўцы каля смеццевых бакаў. Яшчэ ў Вілейцы адпрацаваную тэхніку прымаюць у магазінах "Утульнасць" і "Модульгандаль".

У Вілейцы на вуліцы Чапаева, 67 і ў Даўгінаве на вуліцы Мінскай, 1 працуюць прыёмныя пункты, дзе можна здаць другасную сыравіну. Для тых, хто жыве ў іншых вёсках, у вілейскай ЖКГ распрацавалі спецыяльны графік, калі прыязджае машына ў вёскі раёна за адходамі.

Прыблізна так працуе і жыллёва-камунальная гаспадарка ў Валожыне. Аднак тут яшчэ прымаюць аўтамабільную гуму. У ЖКГ ёсць спецыяльная пляцоўка, куды аўтаўладальнікі могуць прывезці і пакласці старыя шыны.

Часам ЖКГ у Валожыне ладзіць выязны збор гумы. Тады машына прыязджае ў гаражныя кааператывы і забірае гуму адразу адтуль. Але зноў жа бясплатна. Чаму?

Справа ў тым, што гума – гэта адходы вытворчасці. Для таго, каб яе адвезці на пункт прыёму і перапрацаваць, ЖКГ павінна плаціць.

На што ідзе другасная сыравіна? Тую ж гуму ў Валожыне, напрыклад, адвозяць на цэментныя заводы. Сюды падыходзяць не ўсякія шыны. Бяруць толькі ад легкавых аўтамабіляў і ад МАЗаў. Шыны ад вялікіх трактароў для цэменту не выкарыстоўваюць.

Са старой тэхнікі на прадпрыемствах дастаюць каштоўныя металы. Са шкла зробяць новую шкляную тару. Макулатура ідзе на стварэнне не толькі новай паперы. З яе робяць будаўнічыя матэрыялы, тканіну, аднаразовы посуд. Скотчам, ёлачнымі цацкамі, сувенірамі і медыцынскімі прэпаратамі становіцца поліэтылен.

Правільная апрацоўка адходаў дапамагае пазбегнуць дрэннага ўздзеяння на навакольнае асяроддзе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Спецназ абяцае не адлоўліваць рысь у Налібоцкім заказніку

ВАЛОЖЫН

Вайсковая часць 3214 хацела атрымаць дазвол на канфіскацыю з заказніка "Налібоцкі" двух драпежнікаў. Рысь – сімвал "Крапавых берэтаў".

Раней у часці ўжо жылі дзве дзікія кошкі ў спецыяльнай клетцы. Рысь-самец моцна хварэў, 16-гадовая жывёла памерла год таму. Самка пасля смерці сябра пражыла менш за год.

Навіна аб пошуку новых жывых сімвалаў абурыла абаронцаў жывёл. "Цэнтр этычных адносінаў да прыроды" накіраваў адпаведны зварот адказным інстанцыям.

Па апошніх падліках, у Налібоцкай пушчы жыве каля 40 рысяў. Афіцыйная статыстыка гаворыць: у Беларусі 421 асобіна рысі

"Рысь з'яўляецца сімвалам спецназа ўнутраных войскаў МУС, галава гэтай жывёлы намалявана на шаўроне байцоў спецназа. Але пагадзіцеся, што дадзеная нашыўка выказвае баявы дух, смеласць, бясстрашнасць дзікай жывёліны, у якой ёсць права на сапраўдную свабоду, а не быць асуджаным бачыць неба праз краты", – пісалі ў звароце.

У адказе камандзір вайсковай часці 3214 паведамляе: спецназаўцы "вырашылі адмовіцца ад ідэі адлову рысяў з натуральнага асяроддзя з мэтай размяшчэння іх у клетку". У часці вывучаюць варыянты набыць драпежнікаў у адным з дзяржаўных заапаркаў па законе нашай краіны.

**Паводле партала "Зялёная сетка".**



Фота з архіва "РГ".

Напярэдні абласных дажынак-2015 у Вілейцы робяць дарогу па вуліцы Кастрычніцкай.

# Асфальт у двары павінны рамантаваць з бюджэту горада

## Такую думку выказаў старшыня жыллёвага кааператыва Леанід Шышпар

ВІЛЕЙКА

**Хто павінны класці асфальт у двары жылога шматпавярховага дома ў Вілейцы? На гэта набалелае пытанне віляйчан з вуліцы Талстога мы спрабавалі адказаць у адным з нумароў.**

У аддзеле архітэктуры райвыканкама і ў ЖКГ нам патлумачылі, што дарогу рамантаваць жыхары дома №49 на вуліцы Талстога павінны за свае грошы. Калі ўчастак не зарэгістраваны, трэба звярнуцца ў БТІ і зарэгістраваць яго.

Аднак старшыня кааператыва **Леанід Шышпар** мае сваю думку на гэты конт.

За якія грошы павінны рамантаваць асфальт? Адказ адназначны – за бюджэт горада, упэўнены Леанід Уладзіміравіч.

Гэта вызначана заканадаўствам, кажа ён, і прыводзіць такую вытрымку: "Параметры тэрыторыі пры доме – плошча, межы – адлюстроўваюцца ў кадастравым пашпарце. Калі ўчастак не аформлены адпаведным чынам, то абавязак па яго ўтрыманні ўскладзены на адміністрацыю горада".

Улады прапануюць жыхарам зарэгістраваць участак. Але тут ёсць як плюсы, так і мінусы, пераканаsuccessful старшыня кааператыва і жыхары. Калі аформіць тэрыторыю, за яе, па-першае, трэба плаціць зямельны падатак. Па-другое, у двары дома не павінна быць нічога, акрамя дзіцячых і спартыўных пляцовак, а таксама гаражоў для інвалідаў. І апошняе, рамонт участка, у тым ліку і дарог, становіцца абавязкам саміх жыхароў.

Ёсць і пэўныя плюсы. Напрыклад, калі ўчастак зарэгіструюць, можна абараніць двор ад незаконных пабудоў: шматпавярховак, супермаркетаў. Можна атрымліваць прыбытак за выкарыстанне ўчастка і траціць яго на рамонт дома і двара.

Вялікім недахопам, кажа старшыня, з'яўляецца тое, што зямлю можна аформіць тады, калі яе выдзеліць райвыканкам. Жыхары даведваліся кошт рэгістрацыі. Цана самой рэгістрацыі параўнальна невялікая – 200 рублёў. А цана выдзялення райвыканкамам у разы вышэйшая.

– Хочацца ўступіць у дыскусію з намеснікам дырэктара ЖКГ **Нінай Сялюн** і галоўным архітэктарам Вілейскага раёна **Дзмітрыем Гарланавым**, – кажа Леанід Шышпар.

**Якім заканадаўствам кіруюцца чыноўнікі, калі кажуць пра тое, што ў нашым выпадку рамантаваць дарогу ў двары жыхары павінны за свае сродкі, пытаецца старшыня. Няўжо і пенсіянер павінны за сваю пенсію асфальтаваць тэрыторыю ля дома?**

А між тым, у другім пад'ездзе дзевяць пенсіянераў і толькі адзін жыхар працаздольнага ўзросту.

### Дзмітры Гарланаў: атрымліваецца, што і прыватныя надзелы ЖКГ павінна асфальтаваць?

З Нінай Сялюн я размаўляю па гэтым пытанні, кажа Дзмітры Гарланаў. Жыхары павінны былі па акце перадачы прыняць гэтыя работы: бо іх грошай палова, і бюджэтных палова. Усе працэнтоўкі ў ЖКГ ёсць. Цяпер старшыня кааператыва можа звярнуцца да старшыні раёна і разам працягнуць добраўпарадкаванне ў долі.

Калі жыхары бралі кватэры, яны плацілі за ўпарадкаванне тэрыторыі. Проста кажучы, тэрыторыю таксама куплялі. Удакладніць межы і нанесці іх на дакумент – папяровае пытанне, кажа галоўны архітэктар.

На прыватных надзелах ЖКГ павінна класці асфальт? Вядома, не. А між тым, там таксама зямля незарэгістраваная ў многіх. І нават дом не кожны.

Па словах Дзмітрыя Гарланава, ЖКГ спыніла працу па добраўпарадкаванні, калі закончыліся грошы, прапанаваныя жыхарамі як палова ад сумы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Як маладзечанец праваліўся ў адкрыты люк

МАЛАДЗЕЧНА

**Гэтым здарэннем падзяліўся маладзечанец у суполцы "Маладзечна LIVE" у сацыяльнай сетцы "Укантакце".**




Пікантнасць гісторыі ў тым, што гэту гурбу снегу можна было абысці і справа, і злева, – расказаў дыспетчар цепласетак.

Вось што ён піша:

– Учора позна вечарам (24 студзеня – заўвага "РГ") трэба было сустрэць з работы маці. Ішоў па пешаходнай дарожцы да скрыжавання вуліц Вялікі Гасцінец і Гарадоцкая па баку запраўкі "Белнафтахім". Асвятлення на той момант там не было.

**І раптам, зямля пайшла з-пад ног і я апынуўся ў каналізацыйным калодзежы. Добра, што нічога не зламаў і змог адтуль сам выбрацца, атрымаўшы толькі некалькі моцных удараў.**

Пасля гэтага паспрабаваў знайсці люк, а ён, здаецца, адкрыты ўжо даўно і моцна прымёрз да зямлі, што я нават не змог зрушыць яго з месца, каб закрыць калодзеж. Каб больш ніхто не праваліўся, я пазначыў гэта месца галінкай дрэва.

"Рэгіянальная газета" тут жа пачала сваё расследаванне таго, хто мог пакінуць люк адкрытым.

Аказалася, гэта не так і проста. Спачатку мы патэлефанавалі ў "Камунальнік", на што нам там адказалі:

– А чаму, калі нешта здараецца, абавязкова вінаваты "Камунальнік"? Люкі могуць належаць як водаканалу, так і цепласеткам. Трэба яшчэ разабрацца, што там за люк.

У ЖРЭУ №6, на тэрыторыі якога знаходзіцца гэты люк, таксама пацвердзілі, што работнікі ЖРЭУ абслугоўваюць толькі наземныя аб'екты.

– Пад зямлю мы не лезем. А там жа побач будоўля, магчыма, будаўнікі і не закрылі люк.

У дыспетчарскай цепласетак сказалі, што там ёсць іх цеплатраса, але аб тым, што рабочыя маглі забыцца закрыць люк, нават гаворкі ісці не можа.

– Я зараз накірую туды хлопцаў, – адказаў дыспетчар, – праз гадзінку перэтэлефануйце, пастараемся разабрацца.

Заканчэнне гісторыі, якая падняла на ногі ўсе камунальныя службы горада, можа выклікаць усмешку.

На запраўцы, што знаходзіцца побач, сказалі, што там трактары сапраўды чысцілі снег.

І разам з вялізнай гурбай снегу яны выпадкова ссунулі і люк.

– Але пікантнасць гісторыі ў тым, што гэту гурбу снегу можна было абысці і справа, і злева, – расказаў нам усё той жа дыспетчар цепласетак.

**Толькі хлопец вырашыў пераскочыць вялізны сумёт. Пераскочыў... і трапіў дакладна ў люк.**

Маладзечанцу рэдакцыя жадае хуткага выздараўлення, а камунальным службам – большай пільнасці. Бо сумёт – гэта не папярэджанне аб небяспецы.

P.S. Люк вярнулі на месца.

**Наталля ТУР.**

# Сям'я школьніцы, якая загінула пад Маладзечнам, і ў абласным судзе не даказала, што дзяўчынка працавала на полі

МАЛАДЗЕЧНА

Мінскі абласны суд разгледзеў касацыйныя скаргі на рашэнне Маладзечанскага суда аб адсутнасці працоўных адносін паміж загінулай падчас уборкі бульбы школьніцай і СВК "Усход-Агра". І пакінуў рашэнне без зменаў.

"Калегія суда пагаджаецца з высновамі суда (першай інстанцыі) у тым, што ў дадзенай сітуацыі 25 артыкул Працоўнага кодэкса скарыстаны, бо дзяўчынка не дасягнула 14-гадовага ўзросту. І прызнаць такія адносіны працоўнымі не мае падстаў. "Рашэнне суда пакінуць без зменаў", – зачытаў суддзя.

Перад гэтым у студзені пракурор Маладзечанскага раёна **Уладзімір Дубоўскі** вынес касацыйны пратэст на рашэнне мясцовага суда аб адсутнасці працоўных адносін паміж загінулай школьніцай **Вікторыяй Папчэняй** і СВК "Усход-Агра". Само СВК тады настойвала, што не ведала, што на полі працуюць дзеці, не дапускала іх да працы.

**А прадстаўнікі сферы адукацыі тлумачылі, што вучні на полі не працавалі, а "выхоўваліся", згодна з зацверджаным у школе планам. І суд першай інстанцыі прыняў гэты аргумент.**

Але з гэтым не пагадзіліся пракуратура і родныя дзяўчынкі. Пракуратура палічыла, што суд не ўлічыў усе факты, пацверджаныя "дакладнымі і дастатковымі доказамі". А інспектары прафсаюза РЭП дапамаглі бацьку школьніцы **Алегу Папчэню** скласці сваю касацыйную скаргу ў Мінскі абласны суд на папярэдняе рашэнне.

Па словах прадстаўніка істца, прававога інспектара **Леаніда Судаленкі**, хоць суд раней даручыў правесці спецрасследаванне інцыдэнту аддзелу адукацыі Маладзечанскага райвыканкама (на дзеянні якога, уласна, і былі нараканні), аб выніках нічога не чуваць да гэтага часу.

Пасля пасяджэння Судаленка таксама дадаў, што сённяшняе рашэнне суда "стварае небяспечны прэцэдэнт" у выкарыстанні дзіцячай працы.

Хоць, па словах прававога інспектара РЭП **Андрэя Стрыжака**, Міністэрства адукацыі "ўсведамляе небяспеку і недапушчальнасць падобнай практыкі", – бо яшчэ за некалькі месяцаў да трагедыі яно рассылала ліст па рэспубліцы аб забароне прыцягнення вучняў да сельгасработ.

Нагадаем, у канцы снежня суд Маладзечанскага раёна вынес прысуд кіроўцу грузавіка: 22-гадоваму **Паўлу Цыбіну**. Яму далі тры гады абмежавання волі ў папраўчай установе адкрытага тыпу. На думку боку абвінавачвання, ён мог убачыць дзяўчынку ў люстэрку задняга віду, але пачаў рухацца заднім ходам і быў няўважлівы. Бацькі школьніцы не патрабавалі ў кіроўцы кампенсацыі маральнай і матэрыяльнай шкоды.

**tut.by.**

## Што пра падзею пісалі нашы чытачы ў каментарах



"Вось вам і ўся наша судовая сістэма". **Язон Д.**

"Жах, вось як у нас адбываецца. Крыўдна за бацькоў, стукаліся аб бетон". **Наталля М.**

"Тое адчуванне, калі акрамя мата, няма ніякіх аргументаў". Ганна К.

"Тое, што я раней і гаварыла, не было сэнсу ехаць у Мінск. На наш выпадак таксама вынеслі рашэнне без зменаў. Нават разбірацца не сталі". **Святлана П.**

"Вось яшчэ цікава для чаго праводзілася следства. З іх пратаколамі нехта схадзіў у прыбіральню." **Яўген П.**

"Простаму чалавеку супраць кругавой парукі не пайсці. Шкада". **Вольга Н.**

"У свой час мы ездзілі на бульбу з пятага, калі не з чацвертага класа. Проста вельмі апякаць сталі дзяцей, яны зусім не арыентуюцца ў знешнім асяроддзі. У школе ўрокі працоўнага навучання праводзяць пісьмова. Дзіцяці нельга працаваць малатком, нажоўкай – раптам параніцца. У дзяцінстве ўсё трэба паспрабаваць, каб вызначыцца ў жыцці". **Ігар С.**

# Дапамагчы інвалідам можна і рэчамі, і грашыма

МАЛАДЗЕЧНА

**Ні ў якім разе ад вас не патрабуюць нейкі фінансавых выдаткаў. Дапамагчы вы можаце тым, што прынесяце непатрэбныя рэчы.**

У першую чаргу, адзенне і абутак. Для вас гэта невялікія страты, калі вырашылі развітацца са старым. Затое для інвалідаў, асабліва тых, якія не маюць сваякоў, вялікая фінансавая падтрымка.

– Часам сутыкаліся з тым, што ў арганізацыю звярталіся людзі, якія страцілі блізкага, але не ведаюць, што рабіць з рэчамі, – расказвае кіраўнік Маладзечанскай раённай грамадскага аб'яднання "Беларускае таварыства інвалідаў" **Васіль Таркан**. – Таму прынасіць іх нам. Але гэта былі адзінкавыя выпадкі. Затое ўзнікла ідэя прапанаваць іншым людзям аддаваць непатрэбнае, а не выкідаць на сметніцу.

**Як адзначае кіраўнік арганізацыі, былі выпадкі, калі прыносілі прасы, лямпы, дзіцячыя цацкі, нават адзін раз гармонік аддалі.**

– Мужчына сціпла прынёс музычны інструмент, сказаў, што ўжо непатрэбны, – узгадвае Васіль Аляксеевіч. – Гэта рэч выклікала сапраўды бурны шквал эмоцый у таварыстве: "Чаму ж раней не прыносілі? Мы б даўно баль зладзілі!"

Усяго ў таварыстве 250 інвалідаў.

Паўдзельнічаць у добрай справе можа кожны. Рэчы можна прынасіць у таварыства інвалідаў у Маладзечне па вуліцы Вольнай, 9 па аўторках і чацвяргах. Тэлефон для даведак **(80176) 74-64-78**.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

● НАВІНЫ

## Пачынаюцца гульні на выбыванне

**СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ**

У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па мініфутболе прайшлі завяршальныя гульні кваліфікацыйнага этапу. Навагрудак 28 студзеня прымаў "Ашмяны". Ва ўпартай барацьбе навагрудцы перамаглі 11:10.

"Мядзведзі" са Смаргоні дома гулялі з астравецкім "Меліяратарам". У напружанай барацьбе смаргонцы змаглі напрыканцы матча вырваць перамогу 6:5.

У групе "Поўнач" "Мядзведзі" занялі другое месца, "Меліяратар" – трэцяе. Яны працягнуць барацьбу за медалі ў раўндзе плэй-оф. Стартуе ён у гэтыя выхадныя. "Меліяратар" згуляе з клубам "Гродзенскі", "Энергія" з Зэльвы – з "Мядзведзямі" са Смаргоні.

"Ашмяны", якія занялі апошняе месца ў групе, аспрэчаць 11-12 месцы з "Мастамі".

## Маладзечанцы ідуць далей

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ**

Адбыліся папярэднія гульні першынства Мінскай вобласці па мініфутболе сярод ветэранаў. У групе "Г" у Мядзеле гулялі каманды гаспадароў, Маладзечанскага і Вілейскага раёнаў. Маладзечанцы атрымалі дзве перамогі і занялі першае месца. На другім месцы – віляйчане, на трэцім – мядзяльчане.

У фінальную частку першынства вобласці выйшла каманда Маладзечанскага раёна. Яна пазмагаецца 25-26 лютага ў Чэрвені з прадстаўнікамі Дзяржынскага, Чэрвеньскага раёна, Жодзіна і "Беларуськалія".

## Выхаванцы Вілейскай школы-інтэрната гулялі ў хакей

**ВІЛЕЙКА**

Супрацоўнікі ДАІ Мінскай вобласці сумесна з аддзяленнем ДАІ Вілейскага РАУС і іншымі зацікаўленымі арганізацыямі правялі прафілактычную акцыю "Разам за бяспеку на дарогах!". Адбылася яна 27 студзеня ў Вілейскай школе-інтэрнаце для дзяцей з цяжкімі парушэннямі маўлення.

Гэта ўжо шостая сустрэча з выхаванцамі школы-інтэрната. Традыцыйна прайшоў хакейны матч паміж камандамі выхаванцаў і хакейнага клуба СК "Раўбічы-2005". Кожнае дзіця атрымала сувеніры і падарункі ад арганізатараў, паведамляе ДАІ Мінскай вобласці.

**Аддзел інфармацыі.**

## Удава вілейскага міліцыянера Дзяніса Шульгача ўручыла кубкі пераможцам футбольнага турніру

**ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ**

У нядзелю ў Мядзеле правялі турнір па мініфутболе памяці вілейскага міліцыянера **Дзяніса Шульгача**, які трагічна загінуў у аварыі у 2015 годзе. Гэта ўжо другі такі турнір.

У мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым комплексе гулялі чатыры вілейскія каманды. У кожнай з іх пэўны час выступаў Дзяніс Шульгач.

Першае месца заняла каманда "Юніёр", другое – "Зеніт", трэцяе – каманда ветэранаў "Мехатроніка".

Адзначылі таксама лепшага нападаючага **Паўла Петрашэвіча** з "Юніёра", лепшага абаронцу **Яўгена Вярбіцкага** з "Мехатронікі" і лепшага варатара **Івана Ігнатовіча** з "Зеніта".

Сёлета ўпершыню пераможцы атрымалі спецыяльныя кубкі. Фінансавала мерапрыемства ў памяць свайго калегі Вілейскае РАУС.

Жонка Дзяніса **Надзея Шульгач** сама ўручала падарункі футбалістам.

Па словах намесніка начальніка Вілейскага РАУС **Кацярыны Млечкі**, мяркуюць зрабіць такі турнір штогадовым.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Рындзюка будуць судзіць за даванне хабару

**СМАРГОНЬ**

У суд Цэнтральнага раёна Мінска паступіла справа ў дачыненні да галоўнага трэнера клуба першай лігі "Смаргонь" **Мікалая Рындзюка**. Яму прад'явілі абвінавачанне ў даванні хабару. Па матэрыялах справы, ён перадаў 100 еўра былому начальніку дэпартамента судзейства Беларускай федэрацыі футбола **Андрэю Жукаву**, каб той прызначыў "правільнага" суддзю на матч з "Оршай". У той жа дзень Жукава затрымалі. Пазней Андрэй Жукаў быў асуджаны на пяць год з канфіскацыяй маёмасці.

Судовае разбіральніцтва ў дачыненні да Мікалая Рындзюка пачнецца ў бліжэйшы час.

**Паводле by.tribuna.com.**

# Аматараў скандынаўскай хады ў рэгіёне стала больш



Аляксей Роўда ўказвае накірунак да здароўя.

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА**

**Калі на Вілейшчыне ля вёскі Ізбіно вы ўбачыце людзей з лыжнымі палкамі, не спяшайцеся пытацца, дзе яны забыліся лыжы.**

Летась вілейскае аб'яднанне "ЗОВіК" пачало тут праект "ЦУД". Яго фінансуе еўрапейская асацыяцыя па мясцовай дэмакратыі ALDA (Брусэль). Адзін з яго пунктаў – развіццё скандынаўскай хады ў Асіпавіцкім сельсавеце.

Па словах старшыні "ЗОВіКа" **Таццяны Цітуленкі**, арганізатары набылі спецыяльныя палкі для скандынаўскай хады, зладзілі майстар-клас.

Цяпер можна сустрэць вялікую кампанію людзей з палкамі, якія амаль кожны ранак трэніруюцца на тратуары ад чыгуначнага пераезду каля былога ПТВ №200 да кальцавой развязкі ў Вілейцы.

### Спартсмен Васіль Лябецкі: жонка займаецца скандынаўскай хадой, я – бегам

Васіль Лябецкі займаецца бегам ужо 47 год. Лепш бегчы ад старасці, чым пасля бегаць па аптэках, жартуе мужчына.

Аднак скандынаўская хада спартсмену знаёмая. Ёй займаецца жонка Васіля **Ірына**. Бягун упэўнены: бег дае большую фізічную нагрузку. Аднак скандынаўская хада – гэта вельмі добры варыянт для тых, хто не можа бегаць. На такія заняткі, па словах мужчыны, часта падштурхоўвае хвароба, а то і доктар можа параіць. Любы рух – гэта жыццё.

У свой час жонцы Васіля зрабілі аперацыю. І ён параіў ёй займацца скандынаўскай хадой. Па інтэрнэце набыў і падабраў палкі для заняткаў.

Цяпер жанчына разам са сваёй сяброўкай такім чынам паляпшаюць сваё здароўе.

– Робяць кружок кіламетры два, – расказвае Васіль, – за размовамі і заняткамі забываюцца пра свае балячкі. Хаця я, напэўна, так ходзячы, больш змарыўся б, чым ад бегу.

Сам бягун у час трэніровак часта сустракае аматараў скандынаўскай хады ў гарадскім парку ў Маладзечне. У асноўным, гэта жанчыны. Па словах спартсмена, яго засмучае тое, што моладзі сярод іх амаль няма.



Інстуктар па скандынаўскай хадзе Аляксей Роўда.

### Аляксей Роўда: круцілі пальцам ля скроні і пыталіся пра лыжы і снег

Маладзечанскі інструктар па скандынаўскай хадзе **Аляксей Роўда** пацвердзіў: маладыя людзі, за рэдкім выключэннем, такім спортам не цікавяцца. А дарма. Па словах Аляксея, гэта даступны і дэмакратычны від фітнесу.

Ён распаўсюджаны ў многіх буйных гарадах Беларусі. У нашым рэгіёне скандынаўская хада найбольш развітая ў Маладзечне, бо тут жыве трэнер. На другім месцы – Вілейка. У астатніх раёнах, па словах трэнера, заняткаў няма.

У Маладзечне 10-20 чалавек займаюцца арганізавана. Ёсць і такія, хто ходзіць самастойна. Усяго, на думку трэнера, чалавек каля ста.

Маладзечна – адзіны горад, дзе трэніроўкі і кансультацыі праводзяць бясплатна. З лютага ўсе ахвотныя могуць прыйсці ў гарадскі парк кожны дзень да 9:00 у раён пляцовак для пляжнага валейбола, атрымаць кансультацыі і пачаць займацца.

Як рэагуюць выпадковыя прахожыя на кампанію людзей з палкамі? Цяпер спакойна, прывыклі. А раней, прыгадвае Аляксей, круцілі пальцам ля скроні і задавалі розныя пытанні пра лыжы і снег.

Займацца хадой могуць усе, трэба толькі пракансультавацца з доктарам. Можна і лішнюю вагу скінуць, і мышцы падцягнуць.

**Даведка "РГ".** Лічаць, што ў першай палове 20 стагоддзя эфектыўнасць хады з палкамі летам заўважылі фінскія лыжнікі. Арганізм атрымліваў прыблізна такую ж нагрузку, як у час хады на лыжах. Аднак шырокага распаўсюджання такія трэніроўкі не атрымалі. Гэта здарылася ў 1990-я гады. У 1997 годзе выпусцілі першыя палкі для скандынаўскай хады. Сёння ёй займаюцца на ўсіх кантынентах. У Швецыі гэты від спорту падтрымлівае ўрад. У Фінляндыі скандынаўскай хадой займаюцца вайскоўцы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Лагатып гэтай кампаніі і цяпер азначае нітку, якую прасоўваюць у вушка іголкі.
2. Працэс канцэнтравання раствораў цвёрдых рэчываў праз частковае выдаленне растваральніка пры кіпенні.
5. Першая назва ансамбля "Песняры".
6. Назва князя ў балтаў.
10. Самае глыбокае возера ў свеце.
12. Здзекаваўся з чалавека і прымушаў яго доўга блукаць па адным месцы.
14. Самы распаўсюджаны і старажытны від паліва.
15. Гэты газ, які абараняе Зямлю ад радыяцыі, смяротна небяспечны для чалавека. Некаторым яго пах нагадвае водар герані, свежасці ці ракаў.
16. Гэту жывёлу каталіцкая царква прызнала рыбай, таму вернікі могуць яе есці ў пост.
18. "Audentes fortuna juvat" – удача садзейнічае …
20. Чалавецтва яго даследавала горш, чым бліжэйшы космас.
21. Сталіца Сірыі.
23. Іх няма на Паўночным полюсе, а на Паўднёвым ёсць.
26. Мы так моцна яго чакаем зімой.
28. Скульптар, аўтар помніка Леніну ў Маладзечне.
30. Архітэктар.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

3. Мастацтва і майстэрства ўзвядзення прыгожых будынкаў. Шэдэўрамі беларускага дойлідства з'яўляюцца, напрыклад, Мірскі і Нясвіжскі замкі, Сынкавіцкая царква і іншыя.
4. Сукупнасць ферментатыўных працэсаў, якія забяспечваюць існаванне і ўзнаўленне клетак.
7. Перавод ваеннай вытворчасці на выпуск грамадзянскай прадукцыі.
8. Поўнае аддзяленне загатоўкі ці вырабаў ад зыходнай загатоўкі па замкнёным контуры праз зрух.
9. Колеравы тэрмін, які абазначае шэраг пурпурных колераў.
11. Баявы вайсковы сцяг.
13. Назва сельскай абшчыны ва ўсходніх славян.
17. Хто з герояў старажытных міфаў упершыню пераадолеў сілу зямнога прыцяжэння і паляцеў?
18. Глобус у выглядзе кнігі.
19. На яго перавозку з Новай Зеландыі ў Еўропу патрабуецца больш паліва, чым важыць сам фрукт.
21. Перад ім птушкі перастаюць спяваць.
22. Плямёны, якія, паводле сведчання антычнага гісторыка Герадота, жылі ў басейне Прыпяці, вярхоўі Днястра і Паўднёвага Буга.
24. Натуральны падатак у ВКЛ, які збіраўся ў выглядзе мясных прадуктаў. На пачатку XVI стагоддзя заменены на грашовы падатак.
25. Вынікаў гэтага конкурсу мы чакаем у канцы лютага. Летась увесь свет радаваўся, што адзін вядомы акцёр яго ўсё ж такі атрымаў.
27. Верхняя пакрыўная частка будынка, якая засцерагае яго ад дажджу, снегу. Яна раней была саламянай або з чароту.
29. Самы буйны горад у Беларусі пасля Мінска.

## Адказы на крыжаванку з №4.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Іслам. 2. Манака. 3. Форум. 7. Планета. 8. Вайны. 10. Шаранговіч. 12. Вальтэр. 14. Фехтаванне. 16. Вада. 19. Казіно. 23. Цэбар. 24. Ханой. 26. Фобас. 27. Кахексія. 28. Тарыф. 29. Кросны. 31. Зялёнага. 32. Абутак

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Міндоўг. 4. Мачанка. 5. Маланка. 6. Вулканы. 9. Тыбет. 11. Карункі. 13. Верасок. 15. Пінгвін. 17. Гадзіннік. 18. Тэціс. 20. Тлушчы. 21. Архіпелаг. 22. Туніс. 25. Карапакс. 28. Тэрмінатар. 30. Кот.

● ГАРАСКОП 3-9 ЛЮТАГА



**Авен.** У вас унутры будзе ўсё бушаваць, бо ў гэтыя дні ў вас вялікі патэнцыял энергіі. Але як вам накіраваць яе ў патрэбнае рэчышча? Лепшы выхад – займіце сябе не вельмі чым сур'ёзным і значным, напрыклад, уборкай дома, спортам.



**Цялец.** Спрыяльны час для рамантычных адносінаў. У вас павышаецца жаданне яркіх і моцных пачуццяў, што станоўча ўплывае на любыя адносіны.



**Блізняты.** Вас чакае даволі радасны і прыемны момант, магчыма, свята ці нейкае мерапрыемства, якое дазволіць напоўніцу атрымаць асалоду ад жыцця.



**Рак.** Лёгкія і прыемныя дні, якія дадуць магчымасць адчуць сябе задаволеным і радасным.



**Леў.** Фінансавая сфера запатрабуе сур'ёзнага падыходу. І нішто не зможа вас адарваць ад клопатаў з заробленнем грошай.



**Дзева.** Магчымыя перамены на рабоце, грашовыя ўкладанні ці нейкія імкненні, пошукі новых крыніц даходу, а таксама пераезд. Але пакуль нішто не прыносіць вам таго, чаго хочаце. А вось сіл, каб змяніць сітуацыю, спатрэбіцца шмат. Таму ўзважвайце ўсе "за" і "супраць".



**Шалі.** Усё ў вашых руках, і таму вінаваціць кагосьці ці чакаць дапамогі, падтрымкі, а ўжо тым больш, каб за вас усё зрабілі, не варта. Старайцеся як мага менш мітусіцца, расходуйце свае сілы разумна, не кідайцеся ў крайнасці, рабіце ўсё паслядоўна адно за другім.



**Скарпіён.** Наступае спрыяльны перыяд для работы і творчасці. Зоркі абяцаюць вам прыбытак. Вам супрацьпаказаныя ўсялякія перагрузкі. Часцей усміхайцеся, успамінайце пра сяброў.



**Стралец.** Не палохайцеся магчымых перамен у жыцці. Бо ўсё, што ні робіцца, – да лепшага.



**Казярог.** Калі пастаянна да нечага імкнуцца, пры гэтым зусім не разумеючы навошта, а таму, што так прывыклі, то ў выніку, акрамя стомленасці, нічога не атрымаеце. Таму вазьміце перапынак, каб адпачнуць і прывесці свае сілы ў парадак. Актывуецца падсвядомасць, могуць быць яркія і важныя сны.



**Вадалей.** Цудоўныя дні, яны дазволяць вам зацвердзіцца ў грамадстве, замацаваць свой статус, а таксама палепшыць свой матэрыяльны стан. Цяпер адкрываюцца перспектывы для далейшых дзеянняў, але прыйдзецца прыкласці нямала і сваіх намаганняў.



**Рыбы.** Не драматызуйце сітуацыю, вашы справы ідуць на папраўку, хоць і не зусім хутка. Ваша становішча будзе паляпшацца, і вы зможаце адчуць у сабе новыя сілы для руху наперад. Шчасце ўжо не за гарамі. Вам цяпер трэба працаваць са сваёй падсвядомасцю, дагаворвацца са сваім унутраным я і шукаць матывацыю ўнутры сябе.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Памятайце, стаць п'яніцам, наркаманам, прастытуткай вельмі проста. Дастаткова адзін раз не павітацца з бабулямі ля пад'езда.

***

У пад'ездзе не было маладых дзяўчат. Таму бабулі называлі прастытуткай дворніка.

***

Вы ніколі не елі пельмені пад душам? Ды вы проста ніколі не спазняліся на працу!

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

### 4 лютага, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -5 / -1 | | -4 / -1 | | -4 / -1 | | -4 / -11 | |
| | 741 | ← 4 | 740 | ↑ 2 | 739 | ← 1 | 745 | ↙ 7 |
| Вільня | -3 / -2 | | -3 / -2 | | -3 / -1 | | -4 / -10 | |
| | 749 | ← 4 | 748 | ↑ 1 | 747 | ↖ 3 | 754 | ↙ 7 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с / Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.53
Захад 17.59
Даўжыня дня 9.06

Усход 12.13
Захад 2.04
Квадра 1




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -29,5 °C у 2012 годзе
Максімальная тэмпература +9,1 °C у 2002 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,1 мм у 2009 годзе
Паводле meteoinfo.by

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА




**Спецыяльным госцем моўных курсаў "Мова Нанова" быў аўтар кнігі "Сем камянёў і адзін з ініцыятараў выдання "Хронікі Нарніі" па-беларуску Аляксей Шэін.**
**Ён расказаў пра фэнтэзі, прэзентаваў гэтыя дзве кнігі, а таксама правёў інтэлектуальную гульню да 500-годдзя скарынаўскай Біблії.**
**Заняткі праходзяць у бібліятэцы "Верасок" у Маладзечне па Вялікім Гасцінцы, 121 па аўторках. Уваход вольны.**



## Калі ў Вілейцы пройдзе фэст "Гонар продкаў"

ВІЛЕЙКА

**Ён адбудзецца 1 і 2 ліпеня. Сёлета мерапрыемства будзе прысвечанае падзеям грамадзянскай вайны ВКЛ 1432-1438 гадоў.**

Цяпер арганізатары запрашаюць клубы, якія займаюцца гістарычнай рэканструкцыяй ВКЛ, краін Заходняй Еўропы, Русі, Залатой арды, Тэўтонскага ордэна другой паловы 14-га – канца 15 стагоддзяў.

Прапануюць паўдзельнічаць і рамеснікам, якія займаюцца сярэднявечнымі і беларускімі народнымі ремёствамі.

Нагадаем, што ўпершыню фэст быў у Вілейцы ў ліпені 2015 года.

Калі вы захацелі стаць адным з удзельнікаў, неабходна папярэдне зарэгістравацца ў суполцы "Гонар продкаў" "Укантаце".

**Аддзел інфармацыі.**



## Чытайце праз тыдзень:

- **Тайны турэмнага замка ў Вілейцы. Чаму і калі з'явілася ў Вілейцы турма? Як называлася тагачасная вуліца 1 Мая? Хто станавіўся ахвярай вязніцы ў розныя часы? На гэтыя і іншыя пытанні вы знойдзеце адказы ў чарговым артыкуле даследчыцы гісторыі Вілейкі Вольгі Коласавай.**

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Што вы робіце для паляпшэння экалогіі?



**Юры Сінкевіч, настаўнік:**
– Ох, нават не ведаю, што адказаць. Ну, выкладаю ў другакласнікаў факультатыў "Экалагічная азбука". Заўсёды выкідваю смецце толькі ў сметніцу. Не забруджваю паветра тытунёвым дымам.



**Надзея Станкевіч, работнік культуры:**
– Самае малое, што я магу зрабіць, – не забруджваць тое, што побач. Каб захаваць прыроду і не забрудзіць наваколле, я ніколі не дазваляю сабе выкідаць смецце не ў сметніцу. І нават маленькую паперку ці праязны білет заўжды выкідаю ў сметніцу. Таксама сартую бытавыя адходы.



**Павел Воўчак, будаўнік:**
– Прыроду вельмі люблю, таму дзе б не адпачывалі з сябрамі ці з сям'ёй, заўсёды прыбіраем смецце. Часам металалом здаю. І для экалогіі добра, і для маёй кішэні.



**Дар'я Савіна, навучэнка:**
– Для паляпшэння экалогіі я заўсёды стараюся выключаць святло у тым пакоі, дзе зараз не знаходжуся, удзельнічаю у суботніках, смецце выкідваю у сметніцу, а не міма. Здаю макулатуру, эканомлю ваду, выключаючы яе, калі чышчу зубы або намыльваю посуд.



**Алена Масцерава, педагог:**
– Лямпачкі люмінісцэнтныя і батарэйкі выкідаем ў адмысловыя кантэйнеры. Збіраем і здаём макулатуру. Пасля пікніка ў лесе забіраем смецце з сабой. Пішу пры магчымасці артыкулы па тэме экалогіі. І экалогія – не толькі чысціня прыроды, але і душы. Аб гэтым таксама трэба клапаціцца.



**Яўген Міцянін, часова не працуе:**
– Што я раблю? Смецце на вуліцы не кідаю, батарэйкі нашу ў магазін у спецыяльны кантэйнер. Але гэта ж кропля ў моры. Буйныя прадпрыемствы паветра забруджваюць, у рэкі розныя шкодныя рэчывы трапляюць. Таму ад мяне асабіста тут мала што залежыць.



**Раман Кузняцоў, кіроўца:**
– Машыну не мыю на беразе рэчкі. Выкідаю асобна паперу і пластык.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№5 (1136) 3.02.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 108. Падпісана ў друк у 9.00 2.02.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.